

Вячоркі ў Белавежы →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




„Андрэй за ўсіх мудрэй” →8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 26 (3033) Год LIX | Беласток, 29 чэрвеня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Аксамітны летні вечар

**Нядзельны ранні вечар 15 чэрвеня быў у Беластоку ўнікальны. Спакойны. Поўны спантаннасці, энергіі і радасці. У вялізным шатры на плошчы імя Станіслава Манюшкі — паміж Беластоцкім лялечным тэатрам і гмахам Падляшскай оперы — прыўкрашаным маляўнічымі ліхтарамі, сабраў усе пакаленні. Жонак з мужамі, бацькоў з дзецьмі, адзінокіх. Пажылых і маладых. А ўсё гэтае — вынік ідэі першай беларускай патанцоўкі на адкрытым паветры, распрацаванай Звязам у карысць прамоцыі і адукацыі беларускай культуры «Шчыты». Дэвіз патанцоўкі ўзяты з песні «Аксамітны летні вечар».**







У ролю распарадчыка танцаў увайшоў журналіст Радыё Беласток Міхась Сцепанюк, апрануты ў элегантны пінжак, але і джынсы, з густоўным гальштукам-матыльком на шыі. У танцы першымі кінуліся Юліта Сцепанюк, адна з арганізатарак забавы і, да нядаўняга часу наместнік прэзідэнта горада Беластока, а цяпер дэпутат Сейма Аляксандр Сасна. Юліта Сцепанюк:

— Мы хацелі арганізаваць агульнадаступнае мерапрыемства. У Беластоку такой звычайнай гульні, дзе людзі маглі б проста пагуляць, не хапала. З лёгкай беларускай музыкай мы хочам дайсці да тых жыхароў Беластока, якія можа нават не ведаюць, што маюць з беларушчынай нешта агульнае. Залежала нам таксама на вечарыне без бар'ераў: крэслаў і г.д., і не на беларускай дыскатэцы пад фанаграму, якія бываюць у клубе «Гвінт». Мы хацелі зрабіць мерапрыемства з удзелам людзей, якія ў 2010-2011 гадах рабіла Марта Зайкоўская ў агародах палаца Браніцкіх. У мінулым годзе яна адышла ад гэтай ідэі. Мы прыйшлі да высновы, што тое, што яна прапанавала, з'яўляецца вельмі класнай ідэяй: без напругі, з жывой музыкай, на адкрытым паветры.

Аляксандр Сасна:

— Я вырас у Сямятычах. Памятаю такія беларускія патанцоўкі ў Рудутах і Саках. Тут, пад палаткай, мне прыпомніліся тамашнія лямпы, што віселі над платформай. У Рудутах, у пажарным дэпо, час ад часу хтосьці прыходзіў і паліваў вадой з вядра драўляную, верагодна, хваёвую, падлогу з сукамі, якія так ці інакш нікому не мяшалі. Танцы былі вельмі папулярныя, нават пасля цэлага дня працы. Падаілі кароў, бралі чаравікі пад паху і ішлі ў суседнюю вёску, таму што гэта была адзіная магчымасць не толькі для танцаў, але і для таго, каб паслухаць лепшую музыку, сустрэцца, паразмаўляць. Тады не было радыё. Мы мелі «точкі», дзе ў асноўным ляцелі інфармацыі згодныя з адзінаслушнай лініяй партыі. Я нават не памятаю хто іграў тады на танцах, важна было толькі тое, што мы добра гулялі.

Неўзабаве на танцпляцоўку выйшаў дэпутат Сасна і ўхапіў да танца намесніцу прэзідэнта Беластока па справах культуры Рэнату Пшыгодзкую, як сама прызналася, аматарку танцаў:

— Вельмі люблю танцаваць, хоць не выглядаю (смех — М. Х.). Я люблю музыку беларускую, славянскую. Гэтыя танцавальныя рытмы захапляюць маё сэрца, дазваляюць добра пагуляць. Я рада, што гэтая падзея паявілася ў Беластоку, і спадзяюся, што стане яна неад'емнай часткай культурна-масавых мерапрыемстваў у горадзе. Год таму ў грамадзянскім бюджэце быў прыняты праект гарадской патанцоўкі, падобнай да гэтых, што былі двойчы праведзены раней. Аказалася, аднак, што ўнутраныя канфлікты арганізатара не дазволілі яе арганізаваць. Я спадзяюся, што беларуская патанцоўка запоўніць гэты прабел.

Фолькавымі, бяседнымі, часам рокавымі важакамі былі ансамблі «Гай» і «Грамада». Генадзь Шэмет, лідар «Грамады»:

— Для нас гэта сімвалічна, што патанцоўка адбываецца пры вуліцы Адэскай. У канцы нашага выступу нават падрыхтавалі мы песню пра Адэсу для таго, каб увекавечыць памяць аб трагічных падзеях, якія там адбыліся. Самае галоўнае, што сёння добрае надвор'е. Калі нам запрапанавалі ўдзел у патанцоўцы, было нам цікава, дзе яна можа быць. Калісь такія падзеі праводзіліся ў амфітэатры. Арганізатары гарантавалі вельмі добрае абсталяванне і гукавую сістэму. Не хопіць пальцаў на руках, каб злічыць патанцоўкі, на якіх мы ігралі ў маім жыцці, было іх дзесьці больш за тысячу: вяселлі, забавы, інтэграцыйныя мерапрыемствы. Яшчэ ў старым складзе зайгралі мы на першай патанцоўцы ў «Сільвестра» ў 1990 годзе ў гайнаўскім «Гурніку», пасля ў другую навагоднюю ноч у клубе «Гвінт». Запамяталася мне патанцоўка два ці тры гады таму. Мы ігралі ў Доміку Чарнецкага на балі імя Канстанціна Астрожскага, дзе на танцпляцоўцы гуляла адначасна 520 чалавек. Я таксама асабліва памятаю патанцоўку з 1994 г. на свята горада ў Оршы. Там танцавалі дзесяць тысяч чалавек. Вось гэта варта было пабачыць!

Басіст ансамбля Яраслаў Галёнка:

— Я сорак гадоў музыкант, немагчыма злічыць усе патанцоўкі, але не ў Беластоку. Сённяшняя патанцоўка — вялікая справа. Як відаць, людзі гэтага хочуць, а ў Беластоку вельмі мала такіх беларускіх мерапрыемстваў для людзей.

Спецыяльна для «Грамады» на беластоцкую патанцоўку прыехаў пан Грыша са Шчучына. На беларускіх мерапрыемствах паяўляецца ўсюды, дзе гэта магчыма:

— Я тут таму, што мне вельмі падабаецца беларуская музыка.

І прызнаўся, трохі збянтэжаны:

— Я не танцую, бо не ўмею...

Марыюш Харужы, лідар ансамбля «Гай»:

— Выдатная ідэя. Раней такога не было ў Беластоку. На фестывалях вядома: людзі сядзяць на крэслах і проста весела праводзяць час, слухаючы, пляскаючы. Тут так шмат людзей і даюць поўную волю эмоцыям, бяруцца за рукі і танчаць. У клубах, як правіла, бываюць падобныя мерапрыемствы, але толькі для моладзі з канвертаванай беларускай музыкай, такой «цуп ды луп», а тут сапраўдная музыка, людзі ведаюць словы, спяваюць, танчаць і падспеўваюць нават малыя дзеці. Добра было б, каб такія танцы былі кожны год, і, магчыма, часцей.

Некаторыя патрабавалі трохі часу, каб адчуць атмасферу мерапрыемства, асабліва пажылыя дамы:

— Мы прыйшлі паслухаць музыку. Патанцуем самі, таму што не маем кавалераў. Мы ёсць, і будзем танцаваць, таму што тут беларуская музыка.

— Не хапае такіх падзей. Я прыходзіла б на такія нават штодня. Як шалець, дык шалець!

— Ну, можа сёння трохі захаладна.

— А колькі тут знаёмых!

У натоўпе былі прадстаўнікі гуртка № 12 Саюза пенсіянераў і інвалідаў з вуліцы Лясной. Гурток налічвае больш за сто членаў, якія ў пераважнай большасці лічаць сябе беларусамі:

— Мы тут ёсць таму, што як толькі можам прыходзім на беларускія імпрэзы. Нядаўна мы былі на Свяце беларускай культуры на Плянтах. Ездзім на экскурсіі, нядаўна былі ў Аўгуставе. Штомесяц арганізуем танцы пад музыку гурту «Кошыкі». У гуртку таксама танцуем і спяваем па-беларуску.

Сярод гуляючых няцяжка было заўважыць у этнастроях на палескі ўзор Эву і Дарыя Звяжынскіх і Магдалену Петрук. Паявіліся яны з бляхай уласнаручна выпечанага рэвеневага пірага і ўласным яблычным сокам. Кідаўся ў вочы гісторык Алег Латышонак:

— Я люблю танцаваць. Танец заўсёды адыгрываў інтэграцыйную ролю. Вёў бліжэй да фізічнага кантакту, які забараняўся штодзень. Танец быў нейкім заменнікам, можна было быць адзін з адным у непасрэднай блізкасці. Шмат гадоў таму мы запусцілі танцавальную школу, куды прыязджалі калегі-інструктары з Мінска і адзін раз у месяц вучылі нас новым беларускім народным танцам. Гэта былі цудоўныя забавы! Вельмі шкада, што па фінансавых прычынах іх не стала.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**





# Мундыяль і справядлівасць

Мільёны людзей па ўсім свеце сочаць зараз за футбольным чэмпіянатам свету па футболе. Для адных — гэта асаблівая жарсць, для іншых — спосаб пераключыцца, абстрагавацца ад сацыяльных, сямейных ці іншых праблемаў, даць выхад эмоцыям, для некаторых — нават своеасаблівы працяг вайны, толькі мірнымі сродкамі. Часам на мундыялі паміж сабой сустракаюцца былыя калоніі і метраполіі, часам гістарычныя суседзі, часта прадстаўнікі розных кантынентаў, расаў і стыляў. Кожны мае тут свае сімпатыі, гістарычныя рахункі і прыярытэты. Іншыя ж шукаюць у футбольных баталіях справядлівасці і высакароднасці, якіх так мала ў сённяшнім свеце, таго, чаго няма ў палітыцы і міждзяржаўных дачыненнях.

Еўропа пакуль перажывае фіяска ў змаганні на зялёных палях з прадстаўнікамі Паўднёвай Амерыкі. На гэтым кантыненце ёй не шанцавала ніколі. А вось прадстаўнікі Паўночнай і Цэнтральнай Амерыкі — ЗША, Мексіка, Коста-Рыка радуюць не толькі сваіх заўзятараў, але і нейтральных аматараў гульні нумар адзін.

Для самой Бразіліі, у якой футбол стаіць на роўні рэлігіі, чэмпіянат стаўся дваякім фактарам. З аднаго боку яшчэ адзін шматмільённы карнавал па ўсёй краіне, з іншага — пратэсты супраць неабачлівай палітыкі ўрада, выдаткаваных вялізных сум на будаванне новых стадыёнаў і рэканструкцыю старых аб'ектаў. Дайшло да таго, што прэзідэнт Бразіліі Дзілма Русеф, баючыся быць асвістанай, не прысутнічала на цырымоніі адкрыцця сусветнага футбольнага форуму — выпадак беспрэцэдэнтны. А вось фраў Меркель ніколі не прамінае магчымасці наведаць такія спартовыя фэсты. Канцлер Ангела звычайна павышае свой рэйтынг у час футбольных топ-турніраў — бундэстым яе не падводзіць. Праўда, золата за яе кадэнцыю ўзяць нія пакуль не можа.

Збіраецца наведаць фінальны матч і прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін, якому пакуль не выпадае ганарыцца сваёй дружынай. Сама маленькая краіна з прадстаўленых на мундыялі Бельгія абыграла самую агромністую дзяржаву Расію. Мяркуючы па некаторых сацыяльных сетках, за бельгійцаў перажывала і значная частка беларусаў. Хоць бальшыня напэўна з традыцыйным савецкім комплексам „малодшага брата" па-ранейшаму хварэла за ўсходняга суседа. У расійцаў у футболе як звычайна пыхі многа, але майстэрства мала. Праўда, Пуцін усё роўна прыедзе ў Бразілію. Яму ніколі ні за што не бывае сорамна. І яго дагэтуль, нягледзячы на захопніцкую палітыку і агрэсію ў дачыненні да Украіны, усюды прымаюць.

Выступ на чэмпіянаце свету — гэта цудоўная магчымасць паказаць свету сваю краіну, прэзентаваць нацыянальную сімволіку, гімн, людзей. Боснія і Герцагавіна як дзяржава існуе толькі крыху больш чым дваццаць гадоў, але ўжо дамагалася такога права. Цудоўны прыклад для футбольнай зборнай Беларусі, заўзятары якой могуць толькі марыць пра выхад у фінальную частку мундыялю. Дэбютанты баснякі паказалі вельмі сімпатычную гульню, але сталіся ахвярамі судзейскай несправядлівасці. Ужо колькі гадоў кіраўніцтва сусветным футболам на чале з непатапляльным Ёзафам Блатэрам ігнаруе патрабаванні грамадскасці пра ўводзіны відэапаўтораў у спрэчных момантах. Вось у хакеі ўкаранілі такое прымяненне тэхнікі і гульня дасягнула амаль поўнай справядлівасці, усе спрэчныя пытанні лёгка зняліся. Імя ж кіраўніка ФІФА Блатэра ўжо стала сінонімам карупцыі і закулісных інтрыгаў. Тут варта прыгадаць і скандалы з „прадаваннем" права на правядзенне чэмпіянатаў свету той жа Расіі ў 2018 г. і Катару ў 2022 г. Але нічога пакуль даказаць не ўдаецца і чыноўнікі гэтай міжнароднай спартовай структуры застаюцца непакаранымі. Ад гэтага, канешне, губляецца вера ў праўду і сапраўды чысты спартовы дух футбольнага дзейства. Можна ўспомніць і скандальны азіяцкі чэмпіянат 2002 года, калі суддзі цягнулі на п'едэстал гаспадароў карэйцаў, папсавалі многія іншыя матчы. Будзем спадзявацца, што ў Бразіліі такога ў галоўным не здарыцца. Бо людзям хочацца не толькі прыгожай гульні, але і справядлівасці. Хоць бы ў футболе...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Самавызначэнне

Ідэя беларускага ўрада, каб даць дзяржкампаніям выключнае права на імпарт тавараў, аналагі якіх вырабляюць самі, без сумневу, паўстала ў чыёйсьці квадратнай галаве. Згодна з гэтай канцэпцыяй, напрыклад, імпартам у краіну вырабленых за мяжой аўтамабіляў будзе клапаціцца вытворца аўтамабіляў МАЗ, трактароў — трактарны завод МТЗ, і хатняга абсталявання — вытворца бытавой тэхнікі „Атлант". Толькі чаму, чорт вазьмі, яны мелі б штосьці імпартаваць, калі ўласных вырабаў ніяк не дадуць рады ўціснуць суайчыннікам? А справа сур'ёзная. У сёлетнім студзені кошт беларускіх тавараў, па-ранейшаму непрададзеных, вырас да 78,2 адсотка штомесячнай вытворчасці кампаній з 70,2 адсотка ў канцы года і дасягнуў эквівалента 10 мільярдаў злотых. Карацей кажучы, завадскія склады поўныя тавараў, якія не знойдуць пакупнікоў. Такім чынам, беларускі ўрад рэкамендуе прадаваць іх па цэнах ніжэйшых за сабекошт. Аднак, так як ніхто не будзе спяшацца, каб купіць іх, таму што калі кошт, нават прыніжаны, ніякага дачынення да якасці, эстэтыкі і карыснасці не мае, або рахункі дзяржаўных прадпрыемстваў або грамадзян вычэрпваюцца, можна спадзявацца катастрафічнага росту запасаў на складах у маштабе краіны ў цэлым. Вырабляць безупынна, каб толькі вырабляць, вядома, можна. Пры ўмове, аднак, што вернемся ў эканоміцы да часоў абмену таварамі. Калі ласка, чвэртка хлеба за кілаграм цвікоў? Можа так быць?

Квадрат з'яўляецца самай распаўсюджанай фігурай у геаметрычнай схеме Эўкліда. Ён мае роўныя бакі і роўныя вуглы. Усё ў ім простае і прадказальнае. Хоць гэта па-свойму ідэальная фігура. Вызначаюць яе неабвержныя мадэлі і, што самае важнае, яны зразумелыя нават для тых, хто нарадзіўся ідыётам. Але ж не ідыёты вырабляюць у Беларусі радыё- і тэлеапаратуру, сельскагаспадарчую тэхніку, грузавікі і падшыпнікі. Каб выконваць усё, што ад «а» да «я», трэба мець не квадратную, а яйкападобную галаву. Я не сумняваюся, што большасць беларусаў з'яўляюцца разумнікамі і тых не падазраваю, што сілком стараюцца вырашыць невырашальную эканамічную праблему квадратуры кола. Гэтым пытаннем займаецца без поспехаў беларускі ўрад, кажуць, створаны з лепшых прафесіяналаў. Справа ў тым, што спецыялістаў, экспертаў і звычайных цынікаў або ідэалістаў сядзіць у ім даволі шмат. Таксама ідыётаў. Трэба тут адзначыць, што паміж ідэалізмам і ідыятызмам прабягае тонкая грань. Ідыёт, па вызначэнні, ідыёт, і ідэаліст, які ўпарта апісвае свет, выкарыстоўваючы толькі простыя канструкцыі, ідыёт датуль не вызначаны, пакуль сам ён сябе не вызначыць. Мяркуючы па антыімпартнай у здагадцы канцэпцыі ўрада, так яно і здарылася. Прымушаючы вытворцаў, значыць, большасць грамадзян, якія таксама з'яўляюцца спажыўцамі, занятых у дзяржаўных, абясцэненых заводах да куплі тавараў горшых замест лепшых, вырабленых з кепскіх матэрыялаў, зробленых абы-як, у адпаведнасці з вытворчымі працэдурамі васьмідзясятых гадоў, беларускі ўрад увекавечвае аўтатрофныя стандарты эканоміі, экстэнсіўнай, неканкурэнтаздольнай, дзіўна знаёма планавай, значыць, нягнуткай у адносінах да фактычнага рынкавага попыту на гайкі або трактары. Але не толькі гайкі і трактары. Таксама тэлевізары, радыёпрыёмнікі, адзенне, прадукты харчавання, прысмакі і разнастайныя іншыя тавары. Сапраўды, вобраз падавіўшагася ўласнымі ванітамі дракона, здаецца, у гэтым кантэксце, лепшы каментар.

У пачатку гэтага тэксту я проста прывёў асобу Эўкліда, бацькі геаметрыі і арыфметыкі. Сказаў ён, што для вучонага няма лепшых ці горшых геаметрычных фігур. Хоць пераважала кола над квадратам, не задавальняўся адно інтэлектуальнымі эксперыментамі, уводзячы кола ў квадрат або квадрат у кола. Вядома, стварыў новыя мадэлі, якія апісваюць узаемасувязь адной фігуры да іншай, у залежнасці ад іх бягучай канфігурацыі. Толькі што свае ідэі запісваў на папірусе, а не на чалавечым мозгу. Бяда спазнаваць на сабе няўдалыя эксперыменты самавызначаючыхся ідэалістаў. А калі каму больш даспадобы, самавызначаючыхся ідыётаў.

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# Пытанні пра культуру і Алеся Бяляцкага

Культура нацыянальных меншасцей у Польшчы на працягу многіх гадоў у фармальным аб'ёме функцыянавання іх арганізацый і культурных праектаў не залежыць ад Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, раней Міністэрства культуры і мастацтва, хаця туга па старых добрых часах, калі меншасцямі «апекавалася» гэтае ведамства, да гэтага часу часта добра памятаецца некаторымі яго прадстаўнікамі. Незалежна ад таго, хто з'яўляецца «апекуном», я заўсёды адчуваў некаторы дыскамфорт, думаючы аб нацыянальных меншасцях па-за дзяржаўнай, ведамаснай палітыкай. Быццам бы чуў: культура ў Польшчы гэта адно, а культура меншасцей — зусім іншае. Вось чаму я з цікавасцю слухаю асабліва першыя, як правіла, дэкларатыўныя заявы новых міністраў культуры. Так было і нядаўна, калі міністра Багдана Здраеўскага, пасля яго перамогі на выбарах у Еўрапарламент, замяніла мастацтвазнаўца і спецыялістка па архітэктуры XIX і пачатку XX стагоддзяў і яго папярэдняя намесніца Малгажата Амільяноўская, якая перад тым курыравала ў Міністэрстве аддзелы культурнай спадчыны і нацыянальных культурных устаноў. Так што з увагай я прачытаў яе першае інтэрв'ю пасля яе прызначэння, якое дала Польскаму агенцтву друку і дзве праблемы прыцягнулі маю ўвагу. Папершае, неадназначна я прыняў яе заяву: «Я хацела б працягваць і развіваць дыялог з людзьмі. Культура ствараецца імі і для людзей, таму патрабуе дамоўленасці паміж чыноўнікамі і творцамі ды заказчыкамі. Дыялог з'яўляецца адзінай формай дасягнення сутнасці таго, чаго людзі чакаюць, і таго, чаго не хочуць. Перада мною цяжкі шлях пошуку кампрамісаў. Я не магу змірыцца з тым, каб культура ў Польшчы была прысвойвана». Я не вельмі зразумеў, аб якім прысваенні гаворка. Я спадзяюся, што не ідзе тут пра падтрымку Міністэрствам культуры патрэб масавай аўдыторыі (асабліва ў перыяд да восеньскіх самаўрадавых выбараў і парламенцкіх у наступным годзе), пры сапхнутай далёка высокай культуры, не заўсёды лёгкай ва ўспрыманні масавай аўдыторыяй. Другі фрагмент выказвання пані міністр звярнуў маю ўвагу па-сапраўднаму жаноцкай паэтыкай: «Блізкае мне параўнанне адносін дзяржаўнага мецэната ў культуры да ролі садоўніка. Ёсць расліны, якія выдатна самі справяцца — пасаджаныя ў добрую глебу і пры адпаведным клімаце, яны не маюць патрэбы ў асаблівай падтрымцы. Але ёсць такія з'явы, якія без дзяржаўнага патранажу не маюць ніякіх шанцаў; іншымі словамі — каб тая ці іншая расліна расла, трэба прыкласці руку садоўніка, які павінен ведаць, які агарод ён хоча. Ці залежыць яму на стварэнні монакультуры аднаго віду кветак, дзе аж пад гарызонт распасціраецца манатоннае поле раслін, магчыма, прыгожых і каштоўных для раслінавода, але нецікавых; ці ён хоча мець дыван з тысячы кветак, казачны і зачараваны сад. Можа ў ім растуць кветкі, якія падабаюцца нешматлікім, якіх садоўнік не любіць і ахвотна іх абмінае, ды няхай дазволіць ім расці і клапоціцца імі. Толькі тады, калі сад набудзе багацце ўсіх раслін, дасягнем паўнату. Падобна ёсць з культурай, якая зачароўвае сваёй шматкратнасцю, а ў Польшчы мае глыбокія карані ў мультыкультурнай, шматнацыянальнай і мультырэлігійнай традыцыях Рэчы Паспалітай, хоць у XX стагоддзі мы сталі пра гэта трохі забывацца». Прыгожыя параўнанні. Толькі як яны адносяцца да ўспомненага на пачатку мецэната над культурай нацыянальных меншасцей?

* * *

Калі я чытаў інтэрв'ю з новай міністр культуры, з Беларусі дайшла добрая навіна, і я вырашыў спыніць пісанне аб новай-старой культурнай палітыцы ў Польшчы. Алесь Бяляцкі, кіраўнік беларускага Праваабарончага цэнтра «Вясна», двойчы намінаваны на Нобелеўскую прэмію міру, выдатны чалавек і сябра «Нівы», быў вызвалены з папраўчай калоніі, дзе правёў амаль тры гады ў значнай ступені з-за крэцінскага і бяздумнага польскага (і літоўскага) правасуддзя. Нібыта падставай было меркаванае ўхіленне ад уплаты падаткаў, а інфармацыя аб банкаўскіх рахунках (доказ «віны») прадставіла Беларусі таксама польская Генпракуратура. Выхад гэтага факта на свята выклікаў міжнародны скандал. Літоўскі бок выказаў па гэтай прычыне шкадаванне, патлумачыўшы, што інфармацыі аб Бяляцкім былі перададзены па памылцы. Таксама прыпыніў на нявызначаны тэрмін прававе супрацоўніцтва з Беларуссю. Неўзабаве пасля гэтага афіцыйна словы прабачэння выказаў міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі, але прававое супрацоўніцтва з Беларуссю не было прыпынена. Арышт Бяляцкага быў асуджаны асобамі і арганізацыямі па ўсім свеце. Цешуся яго вызваленнем, аднак, пастаўлю пытанні прэзідэнту і прэм'ер-міністру: хто ў Польшчы будзе мець адвагу і прыстойнасць, каб асабіста папрасіць у Бяляцкага прабачэння ад імя польскай дзяржавы? Хто і як у Польшчы перад ім адкупіцца?

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Тэатр на беларускай вечарыне

На «Беларускія вячоркі», арганізаваныя 16 чэрвеня ў Школьна-прадшкольным комплексе ў Белавежы, прыбылі вучні, іх бацькі і асобы, зацікаўленыя выступамі дзетак на беларускай мове — роднай для многіх жыхароў Белавежскай гміны. Гасцямі мерапрыемства былі Данута Курань, старшыня ўправы Адукацыйнага фонду Яцка Кураня і Катажына Вінярская з Усеагульнага ўніверсітэта імя Яна Юзафа Ліпскага ў Тэрэміскіх, якія супрацоўнічаюць з белавежскай школай. На вечарыну нават зайшлі беларусы з Рэспублікі Беларусь, якія на веласіпедах прыехалі ў Белавежу на экскурсію.

— Калі ёсць ангажаванасць вучняў і бацькоў, можна многа зрабіць. Наш тэатральны гурток дзейнічае з 1997 года. З пастаноўкай «Зялёны востраў Банана», якую мы падрыхтавалі па сцэнарыі Зофіі Вуйцік і на музыку Анны Бабік, мы нядаўна выступілі ў Беластоку, а тут наш другі выступ. Мы штогод рыхтуем іншую пастаноўку па-беларуску. У мінулым годзе з гэтай групай прэзентавалі мы пастаноўку «Казачная блытаніна». З малодшымі вучнямі прыязджаем на летнік ва Усеагульны ўніверсітэт у Тэрэміскіх. Вучні будуць спяваць па-беларуску ў кінатэатры «Зубр» у Белавежы, — гаварыла Аліна Ваўранюк, дзе, пабольшае, бо ёсць новыя ахвотныя, — сказала настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская.

У белавежскім школьным комплексе вучыцца каля 110 вучняў. Навучэнцы беларускай мовы ў Белавежы ў гэтым школьным годзе прымалі ўдзел у Дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» (9 вучняў) і Конкурсе беларускай песні. Школьныя калектывы выступалі з беларускім рэпертуарам падчас этнаграфічнага фестывалю «Культура на сходах музея» ў Гайнаўцы, у час канцэрта «Белавежскі фальклор» у Белавежы, а таксама вадзілі «Куста» па Белавежы.

— Я запісала сваё дзіця на ўрокі беларускай мовы, хаця ў нашай сям'і раней не было ніякіх сувязей з беларускай мовай і культурай. Мой сын Шыман проста захоплены заняткамі і настаўніцай Анджалінай Масальскай, якая вельмі займальна вядзе ўрокі. Частка дзетак, якія вучацца па-беларуску, гэта дзеткі прыезджых з розных мясцовасцей Польшчы. Вучоба беларускай мове, культуры і мясцовым традыцыям узбагачае нашыя дзеткі і дае ім новыя цікавыя доследы. Я захоплена ўсімі сённяшнімі выступамі, — заявіла Катажына Вінярская, аніматар культуры і каардынатар праектаў па Усеагульным універсітэце ў Тэрэміскіх. Данута Курань таксама пахваліла выступаючых і звярнула ўвагу на ангажаванасць вучняў, якія хочуць вывучаць беларускай мове і падтрымліваць мясцовую культуру і традыцыі.



Дзеткі, якія вучацца беларускай мове, з настаўніцай Анджалінай Масальскай і Маркам Зубрыцкім



Калектыў «Сунічкі» спявае пад акампанемент Марка Зубрыцкага

Белавежскі асяродак культуры ў супрацоўніцтве са школай рэалізуюць праект «Беларускія вячоркі ў Белавежы», у рамках якога былі наладжаны чатыры вечарыны. Падчас апошняй сустрэчы дзеткі з мясцовай школы спявалі беларускія песні, а беластоцкія вучні з Аб'яднання «АБ-БА» выступілі з пастаноўкай «Зялёны востраў Банана». Спатканне закончылася пачастункам, падчас якога мясцовыя аніматары беларускай культуры і госці размаўлялі аб культурных падзеях у Белавежскай гміне.

## Займальна выступілі па-беларуску

Беларуская вечарына ў школе пачалася ад выступу наймалодшых вучняў, якія ходзяць на заняткі беларускай мовы. Пад акампанемент Марка Зубрыцкага (музычны кіраўнік беларускага калектыву «Ручаёк») дзеткі са школьнага калектыву «Сунічкі», якім апякуецца настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская, праспявалі беларускія песні. Дзеткі, якія вучацца беларускай мове, прымалі ўдзел ва ўсіх чатырох «Беларускіх вячорках», якіх галоўным арганізатарам быў музычны інструктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі.

— Я выйшаў з ініцыятывай арганізаваць «Беларускія вячоркі», каб паказаць нашым вучням дзейнасць беларусаў Беласточчыны. Вечарыны — добрая нагода для выступлення дзетак перад бацькамі і белавежскай публікай з беларускім рэпертуарам. Сродкі ў рамках праекта атрымалі мы з Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. На вячоркі запрасілі мы дырэктара Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаша Ціханюка, які расказаў пра дзейнасць музея, Юрыя Каліну з ягоным фільмам «Сейбіт» і самога героя фільма Дарафея Фіёнка з калектывам «Жэмэрва». Нашы вучні на Тройцу вадзілі «Куста» па Белавежы разам з «Жэмэрвой» і калектывамі з Беларусі, — расказаў Марк Зубрыцкі. — У наступным школьным годзе хочам выступіць за сродкамі на куплю касцюмаў для дзетак, якія займаюцца ў школьных беларускіх калектывах.

— Падчас кожнай вечарыны нашы вучні дэкламавалі па-беларуску вершы або спявалі беларускія песні. Выступы падбадзёрваюць дзетак да вучобы роднай мове, — заявіла настаўніца Анджаліна Масальская.

— Цікава было сёння выступаць. Заняткі беларускай мовы таксама вельмі цікавыя і нам падабаецца наша пані Анджаліна. На ўроках мы гаворым, чытаем і спяваем па-беларуску, — заявілі Марта, Марыся і Зося — вучаніцы другога класа, якія выступілі з беларускімі песнямі.

— Я захоплена сённяшнім выступам нашых дзетак. Спявала і мая дачка Марта, другакласніца, якая вельмі задаволеная заняткамі на беларускай мове. Малодшая дачка Марыя зараз займаецца ў дашкольным класе. Я яе таксама запісала на заняткі па беларускай мове. Яна ўжо ад старэйшай дачкі навучалася беларускім літарам, хаця яшчэ не ведае лацінскага алфавіту, — сказала жыхарка Белавежы Галіна Хілецкая.

З пастаноўкай «Зялёны востраў Банана» выступілі вучні шостага класа ПШ № 4 у Беластоку. Свае акцёрскія здольнасці яны гадамі развівалі пад наглядам настаўніцы беларускай мовы Аліны Ваўранюк. Падарыла яна белавежскай школе «Лемантар» свайго аўтарства і кампакт-дыскі, выдадзеныя аб'яднаннем «АБ-БА», віцэ-старшыня Аб'яднання «АБ-БА». — Сённяшні выступ у Белавежы, гэта для нашых вучняў новы досвед. Важна таксама, каб белавежскім дзеткам паказаць актыўнасць беластоцкіх вучняў, што вучацца па-беларуску. Самых заняткаў беларускай мовы мала, каб разгарнуць здольнасці і зацікаўленні маладых асоб. Патрэбная пазаўрочная актыўнасць, якую праяўляюць таксама белавежскія дзеткі.

## Ахвотна вучацца беларускай мове

Хаця жыхары Белавежскай гміны размаўлялі ў асноўным на дыялекце беларускай мовы, вельмі падобным на літаратурную мову, навучанне беларускай мове ў Падставовай школе ў Белавежы спынілася ўжо дзясяткі гадоў таму назад і была гэта адзіная гміна на Гайнаўшчыне, дзе спынілася адукацыя на роднай мове. Беларускія ўрокі вярнуліся ў белавежскую школу некалькі гадоў таму. З верасня мінулага года беларускай мове вучыць настаўніца Анджаліна Масальская, якая працуе таксама бібліятэкарам у Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Навучанне беларускай мове ў Пачатковай школе ў Белавежы спынілася ў сямідзясятых гадах. Тры гады таму беларускай мове стала вучыць Эва Вашчынская. У гэтым школьным годзе колькасць навучэнцаў беларускай мовы пабольшала да 40 асоб, з якіх частка, гэта дзеткі прыезджых, якія не вывадзяцца з беларускага асяроддзя. У класах I-III на заняткі ходзіць 18 дзетак, у класах IV-VI — 9 асоб і 7 гімназістаў таксама вучыцца па-беларуску. Прадбачваю, што колькасць вучняў, якія будуць вучыцца беларускай мове ў наступным школьным го-

— Каб заахвоціць вучняў да адукацыі па-беларуску, я стараюся арганізаваць разнародныя, цікавыя дзеткам заняткі. Побач рэалізацыі праграмы навучання я ладжу дзеткам гульні. Мы дэкламуем, спяваем па-беларуску і выязджаем на розныя конкурсы. Пабывалі мы таксама на экскурсіі ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, якая нашым дзеткам вельмі спадабалася. Вучні многа разоў выступалі перад белавежскай публікай, выступаць падчас музычнага мерапрыемства «Ператоча». Вялікі дзякуй нашай дырэктар Віялеце Янушкевіч, якая ў супрацоўніцтве з гміннай управай арганізуе транспарт навучэнцам беларускай мовы і дапамагае ладзіць беларускія мерапрыемствы, — сказала настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская.

Вучні белавежскай школы пад наглядам і ў рэжысуры Іаанны Стэльмашук-Троц падрыхтавалі спектакль «Дзіўны горад». Дашкольнікі пад апекай Анны Фіёнік вучыліся беларускім песням, танцам і гульням. Свой рэпертуар мелі паказаць 17 чэрвеня ў белавежскім кінатэатры «Зубр», падчас мерапрыемства «Беларускія прэзентацыі дзетак», якое арганізавалі Усеагульны ўніверсітэт у Тэрэміскіх і Адукацыйны фонд Яцка Кураня. Вучні з Аб'яднання «АБ-БА» ў Беластоку мелі выступіць там з беларускімі песнямі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Як дапамагаю распаўсюджваць „Ніву”

У Нараўчанскай гміне мала хто робіць падпіску на родную „Ніву”. Ёсць толькі пастаянныя чытачы ў Новым і Старым Ляўкове, Альхоўцы, Міхнаўцы, Лешуках, Нараўцы, Плянце, Тарнопалі, Свінароях і Семяноўцы. Вёскі гэтыя буйныя па колькасці жыхароў. Толькі некаторыя чытачы робяць падпіску ад часу заснавання беларускага штотыднёвіка, ад яго першага нумара.

У краме ГС пры помніку і на пошце ў Нараўцы я купіў адзінаццаць экземпляраў „Нівы” № 24 ад 15 чэрвеня гэтага года. Купляю ў Нараўцы, бо зараз больш нідзе — апрача Нараўкі — на тэрыторыі гміны няма газет у продажы: ні ў паштовых аддзяленнях, ні ў крамах. Узялі ў мяне па экземпляры Кастусь Ярашук і Мікалай Казлоўскі з Навін, Мікалай Конік, Кастусь Целушэцкі і Лідзія Галубоўская з Новага Ляўкова, Вера Радзіванюк з Міхнаўкі, Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Мікалай Харкевіч і Галіна Бірыцкая з Плянты ды Зіна Пацэвіч з Нараўкі (кіраўнічка фальклорнага калектыву „Нараўчанкі”). Варта дадаць, што Мікалай Харкевіч, Галіна Бірыцкая і Вера Радзіванюк — ураджэнцы вёсачкі Лазовае (салэцтва Новае Ляўкова). Іх зацікавіў рэпартаж Міры Лукшы „Паэтка з міхнаўскіх палеткаў” пра жыццё і літаратурную творчасць колішняй іх суседкі з Лазовага Веры Радзіванюк.

Беларускі тыднёвік купляюць перш-наперш паэты з Нараўчанскай гміны Мікалай Варанецкі, Тадэвуш Кунцэвіч, Кастусь Целушэцкі, Янка Целушэцкі, Аля Ясвіловіч, Вера Радзіванюк, Кастусь Ярашук, Валя Мядзведзь і Галіна Бірыцкая. У „Ніве” № 24 быў, між іншым, артыкул пра Веру Радзіванюк. Усе „тутэйшыя” паэты яго прачыталі. Гэтаксама як і раней рэпартаж пра Кастуся Целушэцкага „Майстра Кастусь” у „Ніве” № 20 ад 18 мая г.г.

Мікалая Варанецкага я наведаў 19 чэрвеня г.г. у ягонай роднай Альхоўцы і запрапанаваў яму прачытаць, між іншым, рэпартаж пра паэтэсу Веру Радзіванюк з недалёкай ад Альхоўкі Міхнаўкі і мае допісы „Летам над Семяноўкай” ды як „Святкавалі дзень інваліда” ў Нараўцы (М. Варанецкі на гэтым мерапрыемстве быў) і ён купіў у мяне „Ніву”. Спадар Мікалай — мой сябра з таго часу, калі мы настаўнічалі ў школе ў Старым Ляўкове. Раней сустрэліся будучы студэнтамі: я І, а Мікалай ІІ Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Я штудзіраваў паланістыку, а Мікалай русістыку. Зараз найчасцей сустракаемся на культурна-забаўляльных мерапрыемствах ды краязнаўчых экскурсіях, якія ладзіць Раённы аддзел Польскага саюза пенсіянераў у Нараўцы або на летніх беларускіх фэстах, якія адбываюцца ў Нараўчанскай гміне.

Паэты з Беласточчыны павінны дапамагаць у распаўсюджванні цікавай роднай газеты „Нівы”. Ім таксама трэба паклапаціцца, каб яе куплялі і чыталі. У ёй многа вестак пра нас, беларусаў. А зараз жыццё бурлівае. Шмат што дзеецца. У „Ніве” прачытаеце весткі адусюль, дзе толькі штосьці цікавае адбываецца.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Бельскі белліцэй з прызамі

**Сто дзевяноста чатыры працы прадстаўленыя былі ў сёлетнім трэцім выпуску конкурсу «Падляшская мазаіка. У пошуках прыгранічнай супольнасці». Сярод пераможцаў была моладзь ІІ Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, якую да конкурсу падрыхтаваў настаўнік Уладзімір Вавульскі. Прызнанне спецыяльнага капітула здабылі іхнія дзве настольныя гульні і шматкультурны спеўнік.**


Хлопцы з белліцэя і іх настольная гульня

Цырымонія ўзнагароджання традыцыйна была праведзена ў гімнастычнай зале VI Агульнаадукацыйнага ліцэя імя караля Жыгімонта Аўгуста ў Беластоку, які з'яўляецца суарганізатарам конкурсу, а яго дырэктар Тадэвуш Мосек — членам капітула. Якраз перад узнагароджаннем маладых пераможцаў, заявіў ён журналістам:

— Сёлета конкурс карыстаўся вялікай папулярнасцю як сярод дзяцей дашкольнага ўзросту, малодшых школьнікаў, так і навучэнцаў сярэдніх школ. Працы былі вельмі разнастайныя па форме. Паступілі і творы мастацтва, а таксама дызайнерскія, літаратурныя і фатаграфічныя працы, мультымедыйныя прэзентацыі, відэа, індывідуальныя і калектыўныя работы. Значная частка прац мае высокі мастацкі ўзровень і па сутнасці больш яны спелыя, чым у мінулым годзе, а гэта абазначае, што ў журы была праблема з вылучэннем найлепшых. Пятнаццаць работ узнагароджаны, і дваццаць пяць — вылучаны. Капітул звярнуў увагу не толькі на правільнасць зместу і мастацкую якасць твораў, але і на тое, як яны былі прадстаўлены ў мясцовым асяроддзі. Цешыла, што працы паказваліся не толькі на вэб-сайтах або ў школе, што маладыя людзі выйшлі больш шырока да людзей: былі ва ўстановах, у публічных месцах у мясцовасцях, з якіх паходзяць аўтары.


Вокладка дыска

Падкрэсліў:

— Мы рады вялікай зацікаўленасці конкурсам, беручы пад увагу вельмі важныя яго пытанні, асабліва ў нашым рэгіёне. Мы хочам паказаць суіснаванне людзей розных культур, рэлігій, нацыянальнасцей, і будаваць адносіны адкрытасці, дыялогу і разумення гэтых культур, захоўваючы прытым сваю ўласную ідэнтычнасць. Уяўная супярэчнасць: інтэграцыя пры захаванні індывідуальнасці.

Трох першакласнікаў Бельскага белліцэя: Губерт Сакалоўскі, Дзям'ян Сахарчук, Якуб Мацяюк растлумачылі «Ніве», чаму на конкурс падрыхтавалі настольную гульню «Падляшская мазаіка» (першае месца ў катэгорыі калектыўных прац вучняў гімназічных і звышгімназічных школ):

— Мы хацелі прадставіць нешта іншае, чым «канкурэнцыя». Сядзелі мы, думалі, што рабіць, і прафесар Вавульскі параіў нам: «Хлопцы, зрабіце нейкую прыстойную гульню». Ну, і мы ўзяліся за працу. Задума прыйшла амаль адразу.

Аб правілах гульні сказалі нам наступнае:

— Гулец наведвае характэрныя месцы нашага ваяводства і перамажа той, хто першым дасягне фінішу. Гульня пачынаецца ў Белавежскай пушчы. Гулец праходзіць праз Бельск-Падляшскі і іншыя мультыкультурныя мясцовасці. Па шляху ёсць розныя віды бонусаў. Калі выйграць, з'яўляецца задавальненне.

У гэтай катэгорыі трэці прыз заваявалі дзяўчаты таксама з Бельскага белліцэя: Марыя Мартынюк, Марта Зінкевіч, Марта Варшыцкая, Кацярына Хмур, Патрысія Сэндзяк, Адрыяна Шуй і Кацярына Васілюк.

— Мы запісалі кампакт-дыск з песнямі чатырох культур Падляшскага ваяводства: беларускія, украінскія, польскія і яўрэйскія песні, — распавяла нам Марта Варшыцкая. — Мультыкультуралізм праяўляецца таксама яшчэ і ў тым, што некаторыя дзяўчаты групы, якая падрыхтавала альбом, спяваюць ва ўкраінскім «Ранку», а іншыя ў беларускім «Вянку». Мы пастараемся распаўсюдзіць дыск. Падабраць песні дапамагаў нам спадар Вавульскі, некаторыя мы знайшлі самі, а некаторыя проста мы ведалі.

Акрамя таго за настольную гульню «Струйка», таксама з Бельскага белліцэя, другое месца ў катэгорыі прац асобных вучняў гімназій і звышгімназічных школ атрымала вучаніца першага класа Патрысія Шырэнас:


Патрысія Шырэнас і яе гульня

— Гэтая гульня аснавана на абарочванні табліц і лісткоў з мультыкультурнымі касцюмамі, якія павінны супадаць з табліцамі. Калісь у маёй сястры, тады маленькай, была гульня з мішкамі — іх апранлі такім чынам. Адсюль узнікла ідэя перататварыць гэтую гульню ў больш павучальную для дзяцей.

У гэтым годзе, у ліку фундатараў шматлікіх конкурсных узнагарод былі прадстаўнікі нацыянальных меншасцей і інстытутаў, якія супрацоўнічаюць з імі: мусульманская рэлігійная абшчына ў Крушынянах (пабыўка ў гэтай мясцовасці з магчымасцю пашырэння ведаў пра татарскую культуру) і Сейненскае старостава (пабыўка на Сейненшчыне з магчымасцю пазнаёміцца з літоўскай культурай). У сваю чаргу, вядомы беларускі дакументаліст тэлебачання і кіно Юры Каліна сам аказаўся быць прызам:

— Для мяне вялікі гонар, што змагу маладым людзям з гімназіі ў Карыціне ва ўзнагароду за фільм, які падрыхтавалі да конкурсу, арганізаваць фільмавыя майстар-класы.

Ініцыятар і суарганізатар «Падляшскай мазаікі» дэпутат Роберт Тышкевіч падчас урачыстасці заўважыў:

— За апошнія дваццаць пяць гадоў польскай дэмакратыі, лічачы ад першых свабодных выбараў, у прасторы талерантнасці і суіснавання, дыялогу і пазнання нашай разнастайнасці як неад'емнай часткі ўласнай ідэнтычнасці, шмат нам удалося зрабіць. Мы самі сябе вось ужо разглядаем як рэгіён, якога разнастайнасць з'яўляецца вялізнай перавагай. Мала таго, што мы прымаем гэтую разнастайнасць, мы лічым яе нашым козырам. Выхаванне ў духу цярпімасці, аднак, ніколі не канчаецца.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Не хапіла кемлівасці...

15 чэрвеня ў Кузаве адбыўся беларускі фэст з цыкла „І тут жывуць людзі”. Арганізатарам мерапрыемства быў Гайнаўскі музей і асяродак беларускай культуры, суарганізатарам — Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе. Імпрэза назначалася на 16 гадзін, але канцэрт пачаўся крыху пазней, паколькі „спазнялася” публіка. Але не ў тым праблема. І тут мой закід у адрас Гміннага асяродка культуры — неакуратна справіліся з рэкламай.

З таго, што мне вядома, абвестка аб фэсце была прычэплена адно на дошцы аб'яў пры мясцовай краме (насупраць царквы). А вёска налічвае больш за сто гаспадарак і доўжыцца больш кіламетра дарогі. Не кожны жыхар вёскі карыстаецца паслугамі вясковай крамы. Напрыклад, наш канец вёскі — ад чыгуначнай станцыі — робіць пакупкі ў чаромхаўскіх маркетах, бо там таннейшыя прадукты. Побач сядзібы Валянціны Раманчук знаходзіцца такая ж дошка аб'яў як пры царкве і вясковай краме. Але, на жаль, абвесткі аб фэсце я не прыкмеціў. А чуткі ў Кузаве разыходзяцца марудна — адзін другому навінак не перадае. І аб фэсце я даведаўся... наступнай раніцы, у панядзелак перад абедам ад мясцовай прадаўшчыцы.

— А чаму гэта вы, пан Валодзя, не былі на фэсце? — пытае пані Раіса.

— На якім фэсце? — пытаю.

— Учора ў Кузаве быў беларускі фэст „І тут жывуць людзі”...

Гэтая навінка мяне ашарашыла, чуць з ног не паваліла. За мерапрыемства я два гады дабіваўся ў дырэктара музея і ў гміне. Ва ўсіх салэцтвах гміны такі фэст арганізавалі, а вялікая Кузава, мяжуючая з Чаромхай-Станцыяй, заставалася незаўважанай. Калі я загаварыў пра гэта ў мінулым годзе на фэсце ў Сухавольцах, дырэктар Тамаш Ціханюк адказаў: „Заяву павінен падаць мясцовы ГАК”. І толькі пасля маёй „інтэрвенцыі” ў войта дырэктарка ГАК у канцы мінулага года першай падала заяву на арганізаванне імпрэзы ў Кузаве ў 2014 годзе. А вынік маёй „сутычкі” з дырэктаркай маем такі, як бачыце даражэнькія чытачы, які маем...

У нядзелю, 22 чэрвеня патэлефанаваў я Янку Снарскаму ў Нарву, лідару гурту „Арт-Пронар” і пытаю:

— Як там прайшоў фэст у Кузаве?

— Усё добра...

Бо як жа інакш мог сказаць госць, які ўпершыню наведаў вёску? Каментаваць таго не стану.

З таго што я даведаўся, у мастацкай частцы фэсту ў Кузаве апрача гурту „Арт-Пронар” выступілі калектывы „Дэкада-Банд” з Бельска-Падляшскага, „Вульчанкі” з Вулькі-Тэрахоўскай, пеўчая група з вёскі Чаромхі і калектыў з Высокага ў Беларусі. Паколькі надвор'е не паспрыяла, выпаў дождж, канцэрт праходзіў у мясцовай святліцы. Удзельнічалі ў імпрэзе войт Юры Шыкула, дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк, нешматлікія кузаўскія пенсіянеры, турысты з-над Рэпчыцкага вадасховішча і чаромхаўскія пенсіянеры, аб чым са смуткам канстатуе ніжэйпадпісаны.






**Уладзімір СІДАРУК**
**Фота Аляксандра ШЧУРАВА**

# Лета і зёлкі

Зараз прыгожая і самая цёплая пара года — лета. У Нараўчанскай гміне на прасторных лугах у далінах рэк Нарва і Нараўка ды рачулкі Баброўкі, а таксама на палянах у лясах Белавежскай пушчы цвітуць прыгожыя кветкі. У лесе шмат лекавых зёлак, у тым ліку буквіца, ландыш і трава зуброўка, а таксама мядзведжы часнок. Лекавымі з'яўляюцца таксама шышачкі вольхі, лісце чарніцы, брусніцы і суніцы, ягады ядлоўцу, лісце бярозы, ліпы, вярбы і ясеня. У кветкавых агародчыках зараз цвіце і вельмі прыемна пахне язмін. Яго кветкі прымаюць у пунктах скупкі зёлак.

У сонечны дзень сярод лугавых траў красуюцца ды прыемна, ажно соладка, пахнуць зёлкі, якіх сёлета вырасла процьма. Зараз вялікія плошчы лугоў не пакошаныя. Яны запрашаюць да сябе збіральнікаў лекавых зёлак. Збіраем або лісце, або кветкі ды не ссякаем усяе расліны. Прыроду трэба шанаваць! Не вырываем усіх зёлак у адным месцы. Частку пакідаем, каб раслі гадамі. Зёлкі збіраем у сухія дні і калі ўжо абсохне раса. Калі збіраць, дык важна добра іх ведаць, быць упэўненым, што гэта сапраўды тая, а не іншая расліна.

У чэрвені гайнаўская суполка „Руно” за кілаграм сушаных кветак стакроткі плаціла 30 злотых, ліпы — 26 зл., васілька (валошкі) — 20 зл., чырвонай канюшыны — 18 зл., ясноткі (глухой крапівы) — 13 зл. і падбелу — 15 зл. За кілаграм сушанага зелля ясноткі можна зарабіць 7,50 зл., маруны пахучай — 15 зл., палявога братка — 6 зл., палявога хвашчу ды жывакосту — па 4 зл.

На пункце скупкі зёлак у Плянце Нараўчанскай гміны за кілаграм сушанага лісця брусніцы і чарніцы плацяць па 12 злотых, суніцы — 10 зл., падбелу і мядункі — па 12 зл., мядзведжага часнаку — 8,50 зл., крапівы — 5,50 зл., бярозы і ясеня — па 3,50 зл. ды вярбы — 3 зл. Па 13 злотых можна атрымаць за карэнне дуброўкі (пяцёрніка), 5 зл. — крапівы, 15 зл. — аеру, 6 зл. — кабыляка (г.зв. конскага шчаўя), 10 зл. — лапуху, 5,50 зл. — ракавых шыек (wężownika) і 1,80 зл. — пырніку.

Зараз у Нараўчанскай гміне пункты скупкі „Руно” працуюць, між іншым, у Баб'яй Гары, Нараўцы, Старым Ляўкове і Плянце. Купляюць шмат відаў лекавых раслін. Збірайма зёлкі. Сезон жа ў самым разгары.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Кветкі ўпрыгожваюць горад

Сёлетняй вясной у Гайнаўцы пасадзілі браткі, аксаміткі і бягонii на гарадскіх клумбах у скверыку перад гарадской управай, на скрыжаванні вуліц з кругавой развязкай Яна Паўла ІІ (вуліцы 3 Мая, Варшаўская і кс. Верабея) ды на скрыжаванні вуліц з кругавым рухам Спартыўнай, С. Баторыя і а. А. Дзевятоўскага, а таксама ў густоўных вазонах-кветніцах на адной з галоўных вуліц — вуліцы 3 Мая. Яны ўпрыгожваюць горад, цешаць зрок. Летам зацвіце яшчэ больш кветак — ужо летніх.

Я памятаю, што ў сямідзесятыя і васьмідзесятыя гады XX стагоддзя ў Гайнаўцы кветак было куды больш. Горад у цэнтры патанаў у кветках. Тадышнія гарадскія ўлады прысвячалі больш увагі, каб у цёплую пару года ў горадзе было больш прыемна. Мелі выдатнага агародніка.

# Аднаўленне гарадскіх маставых

Улады Гайнаўкі дбаюць пра гарадскія вуліцы. Прыемна зараз ездзіць вуліцамі Баторыя, 11 Лістапада, Доўгай, Паддольнай, Электрычнай, Паркавай, Ліпавай, Ракавецкага, Касідлаў, Мілкоўскага, Падлясе і іншымі.

Зараз — да 22 чэрвеня гэтага года — ужо падрыхтавалі да асфальтавання, між іншым, вуліцу Ясяновую на пасёлку Ліпавая (за 215 тысяч злотых) ды вуліцы Мядзяную, Гранічную і Металёвую на пасёлку Пашкі (за 209 тысяч злотых). Магчыма, што атрымаюць яны таксама дажджавую каналізацыю.

Варта дадаць, што ў мінулым годзе былі адноўлены маставыя на пяці гайнаўскіх вуліцах ды мадэрнізавалі электраасвятленне на дзевяці вуліцах у цэнтры горада і на яго перыферыі — за трыста тысяч злотых.

**(яц)**

*Барыс Руско*

## Час

*Уцякаючы, світанняў*
*не даганю.*
*Хвіліны не закілзаю.*
*Вечнасці не апячатаю.*
*Час як вадаспад.*



## Кропка

*Не ведаю, калі пастаўлю*
*кропку.*
*Думка стварае думку,*
*Гарызонт уцякае.*



## Бусел

*На кафедры гняздо.*
*Клёкатам склікае веруючых.*
*Лічыць уваходзячых*
*і выходзячых.*

*З распасцёртых крылаў*
*справаздача.*



## Афон

*Касмадром, з якога*
*стартуюць скруткі слоў*
*у рукі Маўклівага.*

*пераклад з польскай мовы*
*Віктара Шведа*



*Віктар Швед*

## Наша пярэстая кароўка

*У свае рукі браў вяроўку,*
*Што на рагах была ў кароўкі,*
*І вёў на палявую пашу*
*Карміцельку сямейкі нашай.*

*Любіў я пасвіць на мяжы,*
*На двух палетках рубяжы,*
*Дзе жыта летняю парою*
*Расло над маёй галавою.*

*Я не даваў пярэстай волі,*
*Каб не сышла з мяжы на поле,*
*Каб замест густае травы*
*Лавіла колас зернавы.*

*Здавалася, я ў лесе, быццам,*
*У гушчы жыта і пшаніцы,*
*Дзе агнявое сонца з неба*
*Спяліла безліч бохнаў хлеба.*

*Тут казытаў няспынна вушы*
*Шчэбет усялякіх птушак*
*І быў чутны з усіх бакоў*
*Стракат нявідных цвыркуноў.*

*А пасярод густых калоссяў*
*Мне ўсміхаліся, здалося,*
*І дакраналіся рукі*
*Маёй валошкі-васількі.*

*Думкі мае ўжо не іначай*
*Імкнуцца да гадоў дзіцячых.*
*І мне прыпомнілася знойку*
*Наша пярэстая кароўка.*

зорка
для дзяцей і моладзі


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# 28 Сустрэчы „Зоркі”: моц спадчыны і прыроды!

„Сустрачанская скрыня” і „Голас пушчы” — гэта газеты маладых беларусаў, якія нарадзіліся на 28 Сустрэчах „Зоркі”. У іх — інфармацыі, рэцэнзіі, размовы, фельетоны, вершы, апавяданні, разнавідныя гульні і казачныя малюнкі. Іх аўтары — вучні пачатковых школ і гімназій з Беластока, Бельска, Нараўкі, Міхалова, Нарвы. Як і ў апошнія гады, Сустрэчы праходзілі ў лясным пансіянаце Бора-Здруй, непадалёк Ляўкова. Цягам апошняга тыдня, з 17 па 22 чэрвеня, мы наведалі і запісалі інфармацыі з многіх месцаў, звязаных з асобай Тамары Саланевіч. Мы правялі многія размовы з журналістамі і знакамітымі гасцямі, якія наведалі нас у пансіянаце. У цэнтры разважанняў была асоба Тамары Саланевіч. Мы гаварылі пра значэнне рэпартажу, дакументальнага кіно і пра вучняў славутай кінарэжысёркі. Але не толькі...

На старонках газет мы паспрабавалі адзначыць непаўторную сустрачанскую атмасферу, усе тыя сюрпрызы, смешныя здарэнні і жарты, якім не было канца. Шмат натхнення падарылі нам падарожжы па пушчы і наваколлі. Нашы дзяўчаткі і хлопцы праявілі сябе не толькі як цікаўныя і кемлівыя журналісты, але і паэты, аўтары фантастычных апавяданняў, здольныя дызайнеры. Цікавейшыя артыкулы і літаратурныя творы мы надрукуем у чарговых нумарах „Зоркі”. Трэба дадаць, што праца праходзіла на некалькіх узроўнях. Апрача дапамогі прафесійных журналістаў, шмат чаго прыдумалі самі ўдзельнікі майстар-класаў. Сустрачанскімі газетамі кіравалі дзве цудоўныя гімназісткі: Наталля Васько з Нараўкі і Ева Аўярчук з Бельска-Падляшскага. Пры нагодзе мы хочам сардэчна падзякаваць спадару войту Нараўчанскай гміны Мікалаю Павільчу, спадарыням Касі Бяляўскай і Касі Рэент, дырэктар школы Ліліі Тарасевіч і ўдзельнікам І Літаратурнага пікніка, якія нечакана з'явіліся ў Ляўкове і падарылі нам чытанні беларускіх вершаў...

**28 Сустрэчы „Зоркі” былі здзейснены, дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.**

Фота і тэкст:
Ганны КАНДРАЦЮК







## Сустрачанская хроніка

На Сустрэчах „Зоркі” я ўжо другі раз. Цешуся, што магу ўбачыць знаёмых. Я вельмі шчаслівая. Спачатку мы мелі час на знаёмства і размовы.

Заняткі пачаліся ўжо ў першы дзень. Мы глядзелі фільм Каміля Поляка пад загалоўкам „Свіцязь”. Гэта анімацыя, якая здабыла прэміі на міжнародных фільмавых фестывалях. Фільм пабудаваны на аснове аднайменнай балады Адама Міцкевіча. У ім гаворыцца пра затопленую царкву. Я ўсё яшчэ бачу жоўтыя лілеі на вадзе, — гэта людзі з затопленай царквы.

На другі дзень нас сустрэў сюрпрыз! Раніцай мы паехалі на аўтобусе ў Белавежскую пушчу. Працаўнікі парку дазволілі нам пахадзіць па строгім запаведніку. Там мы шукалі таямнічага месца, у якім, паводле мясцовай легенды, праваліася пад зямлю царква. Месца не дапускае да сябе людзей, многія людзі тут блудзяць. Мы сапраўды доўга хадзілі па лесе, каб у рэшце рэшт знайсці жаданае месца. Калі дайшлі на месца, я была вельмі стомленая. Думаю, што варта было стаміцца, каб убачыць гэтае сакрэтнае месца...

(працяг будзе)

Наталля Васько
*„Сустрачанска хроніка”*

# Найбольш люблю таўканіцу!

***Інтэрв'ю з Максімам Фіёнікам, героем фільма „Сейбіт" аўтарства вядомага кінарэжысёра Юрыя Каліны.***

**„Сустрачанская скрыня":** — Максім, доўга заахвочвалі Цябе да ўдзелу ў фільме „Сейбіт"?

**Максім Фіёнік:** — Мяне не трэба было доўга заахвочваць. Але былі хвіліны, калі я вельмі хваляваўся. Калі чытаў імёны продкаў у Раманаўцы, то памыліўся два разы. Мне таксама не хацелася рана падымацца, каб працаваць на полі.

**Сс:** — Якая сцэна фільма Табе найбольш спадабалася і чаму?

**МФ:** — Мне спадабалася сцэна, калі ў Беларусі пыталі ў старэйшай жанчыны, якія яна ведае песні. Яна спачатку не хацела гаварыць, думала, мабыць, што пытаюць прыезджыя з Расіі ці, можа, Кітая. Пасля ўжо, калі даведалася, што гэта свае людзі, то адкрылася. Гэта было кранальнае!

**Сс:** — Ці перашкаджала Табе тэлекамера?

**МФ:** — Тэлекамеры мы амаль не заўважылі. Толькі часам, калі быў вялікі штатыў. Гэта ж дакументальнае кіно, не мастацкае. Мне не спадабаліся здымкі на Каляды. Мы звычайна Каляды святкуем у бабулі, але там не было ўмоў для здымкаў і таму мусілі святкаваць у сябе ў хаце.

**Сс:** — Ці смакуюць Табе традыцыйныя беларускія стравы? Якая Твая любімая страва?

**МФ:** — Напачатку, як ездзіў у Беларусь, мне нічога не смакавала. Потым, можа за пятым разам, ужо палюбіў беларускія стравы. Найбольш люблю таўканіцу. Яна крыху адрозніваецца ад той, якую тут робім. Не люблю селядцоў, а аўсяны кісель люблю толькі з цукрам.

**Сс:** — Колькі разоў Ты быў у Беларусі?

**МФ:** — Можа, дваццаць пяць...

**Сс:** — Якія ўражанні адтуль прывозіш?

**МФ:** — Палессе і Падляшша — гэта амаль тое самае. Крыху іншая гаворка. Там людзі сардэчныя. Можа нават занадта сардэчныя. Калі мы выступаем, то ў кожнай хаце нас кормяць.

**Сс:** — Ці хацеў бы Ты прадаўжаць сямейныя традыцыі?

**МФ:** — Думаю, што так, хоць не ўсё хацеў бы паўтараць. Цывілізацыя паступае і трэба яе ў пэўнай меры скарыстоўваць. Я хацеў бы заняцца музеем у Студзіводах.

**Сс:** — А не хацеў бы Ты стаць акцёрам?

**МФ:** — Я цяпер выступаю ў „Антракце" — тэатральным гуртку ў Бельскім доме культуры. Думаю, што добра там выступаю. Я хацеў бы яшчэ стаць акцёрам і журналістам.

**Сс:** — Ці можаш нам падказаць як стаць акцёрам?

**МФ:** — Трэба быць сабою на сцэне, не баяцца людзей і ўдасканальваць вымаўленне з дапамогай корка.

**Сс:** — Колькі часу займае вымаўленне з коркам у роце?

**МФ:** — Трэба прысвяціць сама менней гадзіну ў дзень.

**Сс:** — Ці пасля фільма дзяўчаты звяртаюць на Цябе большую ўвагу?

**МФ:** — У школе мяне некаторыя пазнаюць, іншыя просяць аўтограф.

**Сс:** — Ці выезды не перашкаджаюць у навуцы?

**МФ:** — Для мяне не перашкаджаюць. У мяне добрыя ацэнкі. Проста, не трэба быць лянівым, трэба многа працаваць.

**Сс:** — У якіх яшчэ фільмах Ты выступаў?

**МФ:** — Мой першы фільм, у якім я выступаў разам з братам Ільём, гэта фільм пра Віктара Шведа. Там я іграў ролю жыда Шумахера, аднакласніка паэта. Мне спадабалася сцэна, калі Віктар Швед (яго іграў мой брат) набраўся вашэй, а таксама калі фільмавы Віктар Швед вучыў „мяне" беларускай мове.

**Інтэрв'ю ўзялі Наталля Васько (галоўны рэдактар „Сустрачанскай скрыні"), Магда Бяляўская, Сільвя і Юліта Грыко, Вераніка Кардзюкевіч, Юстына Марчук, Агнешка Петручук, Крыстыян Паскробка, Адам Сцепанюк.**



# Ці чуеш як плача зямля?

Адным з самых вядомых фільмаў Тамары Саланевіч з'яўляецца дакументальны рэпартаж „Ці чуеш, як плача зямля?". Ён гаворыць пра высяленне жыхароў вёсак з тэрыторыі, дзе сёння знаходзіцца вадасховішча Семяноўка. У фільме паказаны людзі з Лукі, якія выходзяць са сваіх родных хат. Рэжысёрка паказала смутак і роспач беларускіх сялян, якім цяжка пакідаць родны кут. Мяне найбольш узрушыў момант, калі дзядзька забіваў дошкамі вокны і дзверы сваёй хаты, а яго жонка ў той момант трымала ў руках ікону і плакала. Потым яны выехалі на фурманцы, а цэлая вёска ішла за імі і таксама плакала.

У фільме Тамара Саланевіч паказала праўду пра адну са старонак Падляшскага краю. Яна разумела, што адбываецца важны працэс, таму зняла важны дакумент, які не траціць на значэнні, хоць з той пары прайшло ўжо больш за трыццаць гадоў.

**Патрыцыя Чамярыс**, рэдакцыя ***„Пушчанскага голасу"***






## Польска-беларуская крыжаванка № 26

1. Kotek
2. Maksym
3. Noc
4. Ikona
5. Mak
6. Spacer
7. Łąka
8. Kosz

*(„Пушчанскі голас")*



Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклеeным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 22:**

Нагода, кок, пас, слон, шпінат, перац, сэрца, сто, двойка, кот. Какос, нос, шпрэй, спец, ліра, грона, націск, то, Ала, плот.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Мальвіна Маркевіч, Юлія Скарбіловіч, Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Вікторыя Барэчка, Аня Бяляўская** з Наракі, **Катажына Вішнеўская** з Шудзялава, **Мартына Ігнатовіч, Бэата Цілюлька, Юстына Вайцяховіч** з Бабікаў. Віншуем!







# „Андрэй за ўсіх мудрэй”

Бацькі і дзеці з Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку традыцыйна святкавалі заканчэнне школьнага года тэатральнай пастаноўкай. У гэтым годзе, 15 чэрвеня, паставілі яны спектакль „Андрэй за ўсіх мудрэй” у рэжысуры аднаго з бацькоў — Зміцера Косціна. Месца спектакля і заадно інтэграцыйнай сустрэчы было выбрана невыпадкова. У падбеластоцкіх Надаўках у музейнай прасторы ўсе з захапленнем глядзелі на вынікі супольнай працы беларускіх сем'яў.

Фота Адама ПАЎЛОЎСКАГА
























# Карцінкі з глыбінкі (5)

Фрагмент гэзсаўскага комплексу ў Клюковічах

Нурэцкі гмінны партал пра гмінны цэнтр: „Początkiem powstania miejscowości była budowa kolei Połock — Wołkowysk — Siedlce. Otwarcie trasy nastąpiło w 1906 r. Z tych czasów zachowały się pierwsze budynki m.in. zespół dworcowy z wieżą ciśnień. W czasie I wojny światowej Niemcy wybudowali w Nurcu-Stacji dwa tartaki. W okresie międzywojennym były już ich trzy oraz skład drewna, Nadleśnictwo, kaflarnia, cegielnia, zakład wyrobu dachówek cementowych, boisko, 10 sklepów, dwa młyny, piekarnia, gospoda, restauracja, herbaciarnia, zakłady krawieckie i szewskie, stolarnie, poczta, Kasa chorych i szkoła. W latach 50. XX w. nastąpił dalszy rozwój Nurca-Stacji. Wybudowano jednostkę wojskową i gminną spółdzielnię. Powstały nowe zakłady pracy. Lata 60. i 70. były okresem największej świetności w powojennej historii Nurca-Stacji. Dzisiaj w miejscowości gminnej można obejrzeć m.in. współcześnie wybudowany kościół rzymskokatolicki pw. Matki Boskiej Częstochowskiej o bardzo ciekawej architekturze. W głębi lasu przeznaczone do zagospodarowania rozległe tereny po byłej jednostce wojskowej”.

Злажу каля восьмай гадзіны раніцы з аўтобуса, які спыняецца каля згаданага вакзальнага ансамбля. Ягоны цяперашні выгляд паказвае, што *lata największej świetności Nurca-Stacji* гэта адно толькі настальгічны ўспамін. Вадакачка здаецца схіляць сваю гордую калісь „галаву”. Яшчэ ў гадах *największej świetności* на перонах станцыі таўпілася шмат народу. Зараз не надта відаць ці поезд, які за дваццаць хвілін мае ад'ехаць у напрамку Седльцаў, забярэ з Нурца нейкіх пасажыраў. На вакзале пуставата. Дзвярныя і аконныя праёмы вакзальнага будынка незапатрабаваныя і наглуха запертыя.

Заглядаю да суседняга будыначка, у які, як у народзе гаворыцца, і цар пехатою ходзіць, але ўваход туды забіты стружкавай панэллю з надпісам пра забарону ўваходу. Такая тут Еўропа, такая дбайнасць пра пасажыраў, каб хаця не чулі яны нейкага не надта араматнага арамату. А куды чакаючы пасажыр мае падацца за „патрэбай”, пра гэта нейкае чыгуначнае кіраўніцтва не турбуецца. Мабыць, гэта адміністрацыя чыгуначнай маёмасці так вызваляе сябе ад клопатаў, на якія трэба было б выдаткаваць грошы, надта ж патрэбныя сабе.

Але не да ўсіх нерухомасцей у таго кіраўніцтва такі падыход. Мой знаёмы чыгуначны пенсіянер жыве зараз у г.зв. кашарцы, што ў Сушчым Барку — гэта каля сямідзесяці кіламетраў за нурэцкай станцыяй. І вось тая ці падобная ёй адміністрацыя нядаўна прыслала яму паведамленне, што ўстанаўлівае аплату за студню, якая побач тае кашаркі. Чалавек ёю не карыстаецца, бо вада ў ёй няякасная, купляе ваду ў мабільнай краме, а тут даволі „араматная” нечаканасць — за „карыстанне” з тае студні патрабуецца ад яго аплаты, як вынікае з паведамлення, звыш ста злотаў у месяц. Вось табе, пенсіянер, нечаканасць — служы пану верне, а ён табе перне, як гаворыць народная пагаворка.

Кіруюся ў бок нурэцкага вайсковага пасёлка. Маю ўвагу прыцягвае запушчаны двухпавярховы будынак, зарастаючы бярозавым маладняком. Гэта будынак ранейшай дырэкцыі аддзела лясного транспарту. Цяпер усялякім транспартам займаюцца галоўным чынам прыватныя суб'екты і некаторыя дырэкцыі разам з іх офіснымі будынкамі сталі непатрэбнымі.

Недалёка і колішні вайсковы пасёлак. Калісь жылы комплекс быў, мабыць, адгароджаны ад вонкавага свету салідняй металічнай сеткай, замацаванай на бетонных слупах з калючым дротам наверсе. Зараз бетонныя слупы засталіся, толькі заміж металічнай сеткі нясуць яны рэдкія гарызантальныя тоўстыя аполкі — так абгароджаны земляныя прысядзібныя ўчасткі былых вайскоўцаў. Ды і жылы комплекс выглядае даволі сумна — пяціпаверхавыя жылыя блокі асталіся без паўсюднай цяпер тэрмаізаляцыі, у адным з іх палова кватэр пустуе...

Некалькі гадоў таму перад Сяміхочамі нехта рэкультываваў малады хваёвы самасей. Зараз на тым месцы зеляніцца маладое жыта. У вёсцы каталіцкая капліца Божай міласэрнасці парафіі ў Такарах, здадзеная ў карыстанне ў аптымістычным 1991 годзе. Зараз з дашка над уваходам у храм адваліўся тынк і па запушчанасці тратуара перад уваходам відаць, што складана будзе папоўніць урон.

У Сяміхочах працуе вясковая гэзсаўская крама, але і яна даволі мінорная. Прылаўкавага халадзільніка там няма, але прадавачка заўважыла мэту майго зацікаўлення і паказала малапрыкметны звычайны хатні халадзільнік з невялікай колькасцю захоўванага ў ім тавару. Маладая прадаўшчыца паінфармавала мяне, што ейныя папярэдніцы працавалі ў краме нядоўга — да выезду з вёскі за лепшай будучыняй. На акраіне вёскі школьны будынак, у якім навучанне было спынена тры гады таму.



Будынак нурэцкага вакзала

Школа ў Сяміхочах будавалася пад тысячагоддзе польскай дзяржаўнасці, будавалася яна з прыцягненнем вялікага ўкладу мясцовага грамадства. Вось як пра гэта пісала „Ніва” ў 1958 годзе: „Кожны гаспадар прывёз па дзве фуры жвіру і па адной фуры каменю на фундамент. Зроблена жыхарамі вёскі 30 000 вапнавай цэглы, 1500 даховак, 15 штук цамбравін на калодзеж, закуплена 10 тон вапны і цэмент. Адным словам зроблена ўсё, каб вясной прыступіць ужо да будовы школы, каб яшчэ з большай ахвярнасцю ажыццяўляць заклік тав. Уладыслава Гамулкі, дастойна сустрэць свята тысячагоддзя дзяржавы”.

З лясочка за вёскай выскачыла да мяне дзве жывінкі з глыбінкі, двое шчанят і я рашыў падзяліцца з імі, мабыць, выкінутымі некім у той лясок сіроткамі, купленымі толькі што сасіскамі. То яны мяне з тае радасці проста спуталі, закрунуўшыся вакол ног і не даючы ступіць кроку. Давялося мне крыкнуць на іх, тупнуць і такім чынам няўдзячна вызваліцца ад прагных нейкага жывога цяпла жывінак. Сабакі лічацца жывёльнымі чалавечымі прыяцелямі, але сабака адначасна з'яўляецца сінонімам непахвальнага, мянушкай злога, шкоднага чалавека — як падае тлумачальны слоўнік. Ну, але ж сабакі, як і людзі — розныя.

Пры расходных дарогах у Тымянку і Клюковічы двух мужчын працавала пры ўпарадкаванні новага металічнага крыжа. Хацеў я сёе-тое ад іх пра той крыж даведацца, але яны ўсё выкручваліся ад нейкага канкрэтнага адказу. Усё ж такі крыху мне сказалі: ранейшы крыж, драўляны, „тутэйшыя” рашылі замяніць новым і тое рашэнне выканаць грамадскім чынам. Ранейшы крыж быў пастаўіў адзін з жыхароў недалёкага хутара, але невядома з якою інтэнцыяй.

Пішчатка, як падказвае назва вёскі, распалажана на пясочных угоддзях. За вёскай расце шмат ядлоўцу, якому найлепш венавіта на такой глебе. Гмінны партал: „Tutaj na piaszczystym wzgórzu stoją drewniane krzyże. Prawdopodobnie na tym miejscu, owianym legendą, niegdyś stała niewielka cerkiewka. Od strony południowej Piszczatkę otacza rzeka Pulwa, którą przekroczymy zmierzając w kierunku Litwinowicz”.

Я таксама падаўся ў напрамку Літвінавіч, перасякаючы масток на Пульве, якая там цяпер з'яўляецца па сутнасці шырокім і прамым як нацягнутая струна ровам. Партал: „Litwinowicze to miejscowość założona przez osadników litewskich z XVI w. Z tych czasów zachowały się kamienne zabudowania dworskie: stajnia z 1870 r., obora, spichrz i pozostałości po czworakach — kamienne piwnice z półokrągłymi sklepieniami. W latach 1906-1908 ziemie litwinowskie zakupione zostały przez przodków obecnych mieszkańców wsi, którzy pochodzili z terytorium obecnej Hajnówki, a wówczas miejscowości Leśna. To dzięki nim możemy dzisiaj obejrzeć przykłady tradycyjnej architektury drewnianej z pocz. XX w.”.

Паўвеку таму пра літвінавіцкую гісторыю пісала і „Ніва”: „Літвінавічы паўсталі параўнальна нядаўна, у 1908 годзе. Да 1908 года сяляне, якія стварылі Літвінавічы, жылі ў вёсцы Лесьнай, (зараз вуліца Гайнаўкі) [між малочным заводам і рэчкай Лясной — А.В.] ля самай Белавежскай пушчы. Звярына, аднак, (асабліва дзікі), так дакучала бедным сялянам, што яны безупынна пісалі да ўлад заявы, каб тыя дапамаглі ім перанесціся недзе далей ад пушчы. Царскія ўлады згадзіліся выкупіць зямлю ў сялян з Лесьнай і дапамаглі ім навязаць кантакт з панам Станіславам Гутоўскім, які меў некалькі маёнткаў, а між іншым адзін з іх каля вёскі Клюковічы, які налічваў каля 600 дзесяцін зямлі. Сяляне з Лесьнай купілі зямлю, перанесліся пад Клюковічы і стварылі новую вёску, якую потым назвалі Літвінавічамі. З Лесьнай прыбыло сюды каля 20 сямействаў. Жыхары Літвінавіч дбаюць пра сваю вёску. У 1960 годзе пабудавана тут грамадскім чынам святліцу, якая зараз з'яўляецца цэнтрам культурнай дзейнасці мясцовай моладзі...”.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага недзе каля таго ж 1908 года даволі фармальна згадваў пра абедзве вёскі: „Leśna, wieś, pow. prużański, gmina Białowieża, 122 dziesięciny”. Ды „Litwinowicze, dobra, pow. brzeski gub. grodz., gm. Rogacze, 49 wiorst od Brześcia, Gutowskich, z urocz. Stachowicze 562 dziesięciny”. Пра рух насельніцтва між імі — там яшчэ ні слова.

Святліца ў Літвінавічах, пабудаваная звыш паўвеку таму, зараз прыгожа выглядае звонку. Яна абноўлена зверху і з усіх бакоў. Вакол яе сакавітай зеленню зеленее трава. Каля святліцы ў маю там прысутнасць дзяжурыў конь, які з апетытам скуб тую сакавітую травіцу. Калісь, калі яшчэ па нашых вёсках было шмат народу, побач тае святліцы адбываліся шматлюдныя беларускія фэсты. А зараз святліца ў Літвінавічах здаецца быць адно пазіцыяй у нерухомасным кнігаводстве, пра якую гмінныя ўлады дбаюць, як пра аб'ект культурнага значэння. І ўшаноўваюць вялікі туды ўклад працы колішняга мясцовага насельніцтва.

На суседнім са святліцай пляцы была калісь крама. Зараз ад тае крамы асталася толькі цэментная падлога, бесперспектыўна супраціўляючыся наступу бадзёрай прыроды. А коні яшчэ па вёсках не звяліся. І ў суседніх Клюковічах таксама конь трымае дзяжурства, толькі не пры святліцы, але на падворку былой гэзсаўскай базы...

*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Новае выданне

# Піша Валя вершы і слухае Радыё Рацыя




Валянціну Мядзведзь назваць графаманкай у мяне ніколі не павернецца язык. Валянціна — народная паэтка. Ды і сама назва яе паэтычнай кнігі гаворыць аб тым, што піша аўтарка пра тое, што бачыць, чым жыве і дзе жыве. Так і зборнік свой назвала: „Піша Валя з-пад Пушчы". Валя з-пад Пушчы хораша, шчыра, з нейкай душэўнай цеплынёй апісвае свой родны край.

З такімі народнымі паэткамі, як Валянціна Мядзведзь, я сустракаюся даволі часта. Пішуць яны ў асноўным для сябе, бо хочацца пісаць, бо пішацца, бо душа не маўчыць, а жадае свае думкі ператвараць у радкі, каб іх прачыталі і пачулі людзі. І вельмі добра, што ўсе думкі Валянціны Мядзведзь сабраныя пад адну вокладку і выдадзеныя адной прыгожай кніжкай „Піша Валя з-пад Пушчы". Бо не ўсім народным вясковым творцам падобнае пашэнціць. А такім людзям нельга забараняць пісаць, нельга з іх насміхацца, а, наадварот, трэба падтрымаць, дапамагчы, падказаць.

Валя летам прыязджае ў родныя Медзвядзі, дыхае вясковым паветрам, сустракаецца і гутарыць з землякамі, а яшчэ піша вершы і слухае Радыё Рацыя. І, як кажа ў прадмове да кнігі Міра Лукша, „пазаражвала" Радыё Рацыяй усіх вяскоўцаў. Магчыма, перадачы і песні беларускага Радыё Рацыя штодня натхняюць Валю на напісанне новых твораў. Бо калі чытаеш вершы жанчыны, то адчуваецца, што пісаліся яны даволі лёгка і хутка.

Першыя два раздзелы кнігі „Дзе мая родная хата" і „А мне зазуля кукавала" — на вясковую тэматыку. У гэтым раздзеле паэтка хораша апісвае ўсё: і хату, і васількі, і жураўлёў, і вясёлку, і дарогу, і нават піша пра Радыё Рацыя, скуль „песні ляцяць так прыгожа, што ад радыёпрыёмніка адысці не можна (лепш рыфмуецца „не можа" — С.Ч.)".

Чытаючы кнігу Валянціны Мядзведзь заўважыў, што жанчына вельмі любіць кветкі. І так у сваёй кнізе яна прыгожа іх апісвае, проста зачароўваецца імі. Асабліва падабаюцца паэтцы ружы. Апісваючы ружы, паэтка параўноўвае іх з гадамі, якія даўно і хутка праляцелі:

*Цвітуць прыгожыя ружы,*
*Цвітуць і асыпаюцца,*
*А гады прыгожыя*
*Бягуць і не вяртаюцца.*

Захапляецца паэтка і васількамі — „прыгожымі цвяткамі", ад якіх блакітнае неба і якія „радуюць нашы вочы".

Вершы Валянціны Мядзведзь, як і некалі класікаў беларускай літаратуры, арыентаваны сёння на фальклорныя традыцыі, на фальклор. Свядомая ўстаноўка на народнапаэтычную стылістыку адчуваецца ў многіх радках і строфах паэткі. Фальклорны каларыт дасягаецца не шляхам выкарыстання аднаго якога-небудзь закончанага традыцыйнага матыву ці сюжэціка, а шляхам арганічнага ўключэння разнастайных вуснапаэтычных кампанентаў. Асабліва фальклорная афарбоўка твораў адчуваецца ў лірычных радках паэткі, радках пра каханне, у радках аб тым, што хутка праляцелі гады маладосці:

*Прайшла маладосць,*
*Скончылася радасць тут мая*
*І асталася* (лепш — засталася. — С.Ч.) *я ўжо*
*Зусім, зусім адна.*

Ці ў вершы „Жыці дай" пра мужа, які стаў п'яніцай:

*Дай мне, мілы, жыці дай, дай,*
*Грошыкаў не прапівай.*
*Дай мне, мілы, дай мне жыць, кахай,*
*На другіх не спаглядай.*

У вершы „Хам" Валянціна Мядзведзь разважае пра тое, як жонку, якая пастарэла, павёз тапіць муж, бо старую не хацеў любіць. Але жонка хоча яшчэ пажыць і тапіцца зусім не жадае. Лепш, кажа яна мужу, тапіся без мяне сам. У другім вершы „Здрада" паэтка ўспамінае той час, калі юнак прыносіў ёй кветкі, але здрадзіў з іншай. І такія жыццёвыя былі-гісторыі амаль у кожным вершы. Іх немудрагеліста, па-вясковаму шчыра і проста распавядае ў сваёй кнізе Валянціна Мядзведзь.

Ёсць у зборніку „Піша Валя з-пад Пушчы" і гумар. Амаль увесь ён узяты з жыцця. А ў жыцці ўсяго хапае, асабліва на ніве кахання. Вось, напрыклад, аўтарка распавядае пра маладую жонку, якая „толькі грошыкі кахала", то пра старую бабу, якая „задумала сабе маладою быць", то пра дзеда, які з'ядаў смачны абед і з-за гэтага закахаўся ў бабу, то пра кабету, якая сядзела на дыеце і не ела мяса, а калі „прысела, то паўкумпяка з'ела", то пра вясёлага плейбоя, то пра вясёлых хлопцаў, якія „п'юць гарэлку і гуляюць, ну і сем'і разбіваюць" і г.д, і г.д.

Фальклорныя матывы праходзяць праз усе творы паэткі з Медзвядзёў. Арганічнае зліццё асабістага і агульнанароднага з'яўляюцца ў творчасці Валянціны Мядзведзь своеасаблівай творча-псіхалагічнай дамінантай. Праўдзівае адлюстраванне таго, чым жыве сёння вёска ці мястэчка, і з'яўлюцца тэмай яе творчасці.

Не пакрыўдзіла паэтка і юных чытачоў. У зборніку змешчаны чатыры вершы, якія аўтарка адрасуе дзецям. Асабліва прыгожа і ласкава яна апявае коцікаў. Спадарыня Валянціна іх дужа любіць, шануе, разумее іх і даглядае. Калі б Валянціна Мядзведзь часцей пісала для дзетак, то ў яе маглі б атрымлівацца вельмі цікавыя дзіцячыя вершы. Яны лёгка чытаюцца і рыфмуюцца:

*Коцік, мой маленькі коцік,*
*Чаго скачаш ты на плоцік?*
*Яшчэ з плоціка ўпадзеш,*
*Сабе лапачку звіхнеш?..*

Галоўны герой дзіцячых вершаў — гэта коцік. У другім вершы ён пасябраваў з мышкай і нават яе баяўся, бо „мела вострыя зубочкі". А ў трэцім вершы аўтарка распавядае пра коціка і сабачку, якія ўсю ноч пільнавалі хату. А чацвёрты верш прысвечаны прыгожаму Мікалаю (Дзеду Марозу), які на Новы год і Каляды прыносіць падарункі. Усе гэтыя вершы з вялікім задавальненнем прачытаюць не толькі дзеткі, але і дарослыя чытачы.

Пройдзе час і верыцца, што Валя з-пад Пушчы яшчэ напіша і складзе добрую вязанку новых твораў, твораў не змайстраваных, а напісаных ад душы і ад сэрца, як і зборнік, пра які я згадаў вышэй.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# http://bel.beroc.by

У цяперашнім свеце эканамічныя веды маюць даволі вялікую каштоўнасць. Валоданне імі прадугледжвае ўменне зрабіць добры эканамічны аналіз, выказаць абгрунтаваны прагноз аб развіцці падзей у эканоміцы той ці іншай краіны. Нягледзячы на тое, што часцяком гэтыя прагнозы не спраўджваюцца, а аналіз, як потым аказваецца, не ўлічвае якога-небудзь незаўважанага, але вызначальнага чынніка, эканамічныя даследчыя інстытуты шырока распаўсюджаны па цэлым свеце. Натуральна, ёсць і тыя, якія аналізуюць эканамічнае жыццё беларусаў. Адным з такіх можна назваць BEROC (Belarusian Economic Research and Outreach Center) — Беларускі эканамічны даследча-адукацыйны цэнтр, які месціцца ў Мінску.

Каб бліжэй пазнаёміцца з дзейнасцю беларускіх атлантаў эканамічнай думкі, варта зазірнуць на сайт BEROC, што размешчаны ў інтэрнэце па адрасе **http://bel.beroc.by**. Калі казаць уласна пра сайт, то выглядае ён даволі прывабна — нават ад аднаго выяўлення ствараецца ўражанне, што арганізацыя гэта даволі сур'ёзная. І гэтае ўражанне ўмацоўваецца пададзенымі ўнізе выяўлення кантактамі, а таксама падрабязнымі звесткамі аб супрацоўніках цэнтра, што змяшчаюцца ў рубрыцы „Людзі".

На галоўнай старонцы таксама месціцца кароткая інфармацыя аб арганізацыі. „Беларускі эканамічны даследча-адукацыйны цэнтр (BEROC) пачаў сваю дзейнасць у 2008 годзе як сумесны праект Стакгольмскага інстытута пераходных эканомік (SITE) і Эканамічнага адукацыйнага і даследчага кансорцыума (EERC) пры фінансавай падтрымцы Шведскага агенцтва па развіцці (SIDA). На сённяшні дзень BEROC — адзін з асноўных незалежных акадэмічных даследчых цэнтраў у галіне эканамічных даследаванняў у Беларусі", — кажуць пра сябе незалежныя беларускія эканамісты. Далей, на старонцы „Пра нас", яны паведамляюць, што „для паспяховага ажыццяўлення сваёй дзейнасці BEROC прыцягвае прадстаўнікоў навуковай эканамічнай дыяспары, якія працуюць у вядучых універсітэтах і даследчых цэнтрах свету, да ўдзелу ў супольных даследчых і адукацыйных праектах".

Дарэчы, даная старонка дае вычарпальныя звесткі пра партнёраў і кантакты цэнтра, а таксама прадстаўляе шэраг фотаздымкаў, якія, па меркаванню яго супрацоўнікаў, адлюстроўваюць іх дзейнасць. Праўда, дэманструючы яе, яны чамусьці не палупіліся дадаць да фотаздымкаў подпісы, з-за чаго гэтыя выявы застаюцца цікавымі хіба толькі тым, хто на іх змешчаны.

Навуковыя працы цэнтра знаходзяцца на старонцы „Даследаванні". Яны падзяляюцца на „Працоўныя матэрыялы", „Аналітычныя запіскі" і „Серыя FREE Policy Briefs". Са зместам прац можна азнаёміцца ў фармаце pdf, праўда на мове арыгінала, дзе беларускай няма, хоць сайт мае тры моўныя версіі — англійскую, беларускую і рускую.

Пра тое, якія адукацыйныя праграмы мае BEROC, паведамляецца на старонцы „Адукацыя". Яна будзе цікава дактарантам, студэнтам, а таксама эканамістам беларускага паходжання з іншых краін. Апошнія запрашаюцца да чытання лекцый беларускім студэнтам і даследчыкам.

Ёсць на сайце рубрыка „Навіны і падзеі". Размешчана яна чамусьці ў самым канцы агульнага пераліку рубрык уверсе цэлага выяўлення. Магчыма, гэта з-за таго, што паведамленні там з'яўляюцца даволі рэдка — радзей, чым раз на месяц.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Адкрыў для свету якуцкую мову



# 80 гадоў з дня смерці Эдуарда Пякарскага

Пра выдатнага навукоўца беларускага паходжання Эдуарда Пякарскага шырокая грамадскасць даведалася дзякуючы іншаму выдатнаму даследчыку ўжо нашага часу Валянціну Грыцкевічу. Памятаю, як на сустрэчы з беларусамі Пецярбурга Валянцін Пятровіч расказваў нам, студэнтам, пра гэтую і іншых цікавых асоб. А неўзабаве ў серыі „Нашы славутыя землякі" з'явілася і яго кніжачка, прысвечаная Пякарскаму, якую захоўваю з аўтографам аўтара.

Эдуард Пякарскі нарадзіўся 25 кастрычніка 1858 года ў фальварку Пятровічы Ігуменскага павета (цяпер Смалявіцкі раён Мінскай вобласці). Пасля смерці маці быў аддадзены бацькам Каралем на выхаванне ў сям'ю селяніна, а потым забраны роднай цёткай у Мінск. Потым вучыўся ў Мазырскай гімназіі, а на вакацыі ездзіў да стрыечнага дзеда. Пасля паўгода вучыўся ў Мінску, але неўзабаве перавёўся ў расійскі Таганрог, потым у Чарнігаў. Далей паступіў у Харкаўскі ветэрынарны інстытут, з якога быў выключаны ў 1878 г. за ўдзел у студэнцкіх пратэстах. Пераязджаў у розныя гарады, пакуль не быў арыштаваны ў Маскве. Амаль год прасядзеў у адзіночцы Бутырскай турмы. Урэшце быў засуджаны на пасяленне ў аддаленых месцах Сібіры.

Спярша быў дастаўлены ў Іркуцк, потым у Якуцію, з якой лёс звязаў яго надоўга. Праз паўгода Пякарскі ўжо вольна размаўляў па-якуцку, а праз год яму паставілі асобную юрту. З цягам часу ў яго з'явілася грамадзянская жонка і дзеці, а захапленне мясцовай мовай прывяло да працы над слоўнікам. У 1887 годзе быў гатовы першы варыянт слоўніка на 7 тысяч слоў.

У 1895 годзе Пякарскі атрымаў права вярнуцца ў еўрапейскую частку Расіі, але застаўся ў Якуцкай вобласці. Летам 1903 года ён удзельнічаў у Нелькана-Аянскай экспедыцыі інжынера Уладзіміра Папова. За працы „Словарь якутского языка" і „Образцы народной литературы якутов" Пякарскі быў узнагароджаны Вялікім залатым медалём Імператарскага рускага геаграфічнага таварыства.У канцы 1904 года ён атрымаў запрашэнне прыехаць у Пецярбург для перавыдання першага якуцкага выпуску слоўніка і далейшай аўтарскай працы над ім. У красавіку 1906 года Пякарскі прыязджае ў Пінск адведаць родных (больш ён на радзіму не патрапіць). У 1925 годзе навуковец быў абраны сябрам Польскага арыенталістычнага таварыства ў Львове. А ў 1931 годзе Пякарскаму надаецца званне ганаровага акадэміка Акадэміі навук СССР.

Памёр Эдуард Пякарскі 29 чэрвеня 1934 года і быў пахаваны на Смаленскіх лютэранскіх могілках у Ленінградзе. Да ягонага слоўніка ў навуковым свеце была і захоўваецца вялікая цікавасць. Пасля смерці навукоўца вялікую ўвагу яму надаў заснавальнік Турэцкай Рэспублікі і першы яе прэзідэнт Мустафа Кемаль Атацюрк, даручыўшы перакласці і выдаць працу на турэцкай мове. А да 100-годдзя з дня нараджэння Пякарскага ў 1958 годзе ягоны слоўнік быў перавыдадзены ў Венгрыі. Паспрыяла гэтаму якутка, ураджэнка Якуцкай вобласці Хадора Карнілава, жонка Мацьяша Ракашы. Рашэннем Якуцкага гарвыканкама вуліца Міра ў Якуцку была перайменавана ў вуліцу Пякарскага. Шануюць Пякарскага і ў Польшчы. А кіраўніцтвам Рэспублікі Саха (Якуція) у 2007 годзе было зроблена распараджэнне аднавіць помнік на закінутай магіле Пякарскага ў Пецярбургу.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Расказ чыгуначнага пенсіянера

Мікалаю Кердалевічу 60 год. У траўні адзначаў дзень нараджэння. Зараз ён — чыгуначны пенсіянер і актыўны член Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе. Сардэчны прыяцель, вясёлы кампаньён, аматар танцаў. Актыўны суарганізатар культурных мерапрыемстваў. І хоць ён паўнацелы, у танцы няма яму роўных. Асаблівая індывідуальнасць...

— З чыгункай я звязаў лёс у палове шасцідзясятых гадоў, — расказвае калега. — Пасля заканчэння пачатковай школы ў Чаромсе-Станцыі, у 1967 годзе паступіў у чыгуначны тэхнікум у Кракаў. Выбар не быў выпадковым. У Кракаве пражывала дваюрадная сястра. Таму не трэба было клапаціцца пра кватэру і харчаванне. Па-другое, маніў мяне даўні горад, прыгожасць навакольнага краявіду ды казачная гісторыя ўмацаванага паселішча Крака.

Чатыры гады навучання ў сярэдняй школе мінула непрыкметна. З сябрамі-аднакласнікамі стварылі мы адну дружную сям'ю. Супольна раздзялялі радасці і смуткі. «Адзін за ўсіх, усе за аднаго» — як гаварылі мушкецёры... І гэтая дружба доўжыцца па сённяшні дзень.

Атэстат сталасці атрымаў я ў 1971 годзе. Кар'еру чыгуначнага машыніста пачынаў у Беластоцкім паравозным дэпо. Дзесяць гадоў прайшло незаўважана, праляцела з маланкавай хуткасцю. Пасля я перасяліўся ў Чаромху. Пры бацьку-цесляру ў вольны час вучыўся будаўнічаму майстэрству. Самі збудавалі дом з «рускай печкай», у якой матуля выпякала духмяны вясковы хлеб. Аднаразова ўсаджвала дванаццаць падоўжаных бляшак і дзве меншыя. Хапала нам хлеба на два тыдні. У час рамонту печку разбурылі. З кухні зрабілі гасцінны пакой з камінкам.

Едучы з бацькам у Беласток да лекара, а было гэта ў 1976 годзе, сустрэў я ў цягніку тры дзяўчыны. Падарожнічалі з намі ў вагоне. Дзве выйшлі ў Бельску-Падляшскім, з трэцяй меў я прыемнасць пазнаёміцца. Сафія выходзіла з Зубач. Вывучала ў вышэйшай навучальнай установе беларускую філалогію. Спадабаліся сабе. Год лічыліся парай. 7 траўня 1977 года распісаліся ў ЗАГСе, а на наступны дзень павянчаліся ў царкве.

Сафія — выпускніца беларускай, затым рускай і польскай філалогіі — працавала настаўніцай у Гайнаўскім белліцэі. Настаўнічала 35 гадоў. У 2009 годзе выйшла на пенсію. У гэтым жа годзе па прычыне хваробы і стаў пенсіянерам па інваліднасці. Мой прафесійны стаж машыніста дызельнай цягі закончыўся 39-гадовай працай на чыгунцы. У сужонстве нажылі трое дзетак — двух сыноў і дачку. Усе закончылі вышэйшую адукацыю. Жывуць і працуюць у Гайнаўцы. Абзавяліся сем'ямі.

Але няма ружы без калючак. 10 кастрычніка 2011 года наш дом пацярпеў ад пажару. Прычынай была няшчыльнасць газавага балона. Маёй і жончынай пенсіі не хапала на рамонт будынка, спатрэбілася дапамога. Падаў я прашэнне ў гміну. Станоўча адклікнуўся войт Юры Шыкула. Прызначыў аўтамабіль і трактар, затым пяць рабочых для ўпарадкавання папялішча. Апрача таго гміна прызначыла тры з паловай тысячы злотых фінансавай дапамогі. Грашовую дапамогу атрымалі ад жончыных сяброў па працы, ад сямейнікаў зяця з Гарадка, таксама маіх школьных калег. Прыслалі значную суму, калі даведаліся аб маёй бядзе. Я запрасіў іх у госці. Прыехала дванаццаць чалавек. Тыдзень забяспечваў іх харчамі і начлегам, пакрыў кошт транспарту экскурсіі ў Белавежу і Беласток. Зараз, дзякуй Богу, пакрысе мадэрнізуем нашу гаспадарку. Сам пабудаваў цяпліцу, у якой вырошчваем агуркі ды памідоры. Будую адмысловую веранду. Захапляюся пчалаводствам і рыбалкай. Маю пасеку і сажалку, у якой разводжу рыб, а як член паляўнічага гуртка — палюю. Пры тым не забываю... пра выпечку хлеба — аржанога, духмянага, які даўней выпякала матуля. Гэта маё пенсіянерскае захапленне, мая радасць і пацеха.

Хлеб выпякаю ў індукцыйнай печцы. Для гэтай мэты зрабіў я адмысловую бляху. Цеста вырабляю на ўласнай заквасцы. Да яго прыбаўляю адно сушаныя скарынкі хлеба, а ў рошчыну пры вымешванні дадаю зерне сланечніка або дыні і журавіну. На бляху патрабуецца рошчына з 3-4 кг мукі. Вымешваю не рукамі, толькі электрамяшалкай — па прычыне эканоміі часу. Унутры печкі згары і знізу змяшчаюцца спіралі магутнасцю 380 ват. Хлеб пячэцца паўтары гадзіны. Гэта мой рэцэпт.

Запісаў Уладзімір СІДАРУК


Сафія і Мікалай Кердалевічы

Фота Уладзіміра СІДАРУКА


Падрыхтоўка рошчыны


Цеста вырасла, час саджаць у печку

## Адгаданка

1. хатняя прылада для прасейвання мукі, 2. скарынка на зажываючай ране, 3. оперная песня, 4. канат, 5. гарадок на Зальвянцы ў Пружанскім раёне, 6. самка сабакі, 7. хвойнае дрэва са спадаючай на зіму ігліцай, 8. каралева ад валочнай памеры, 9. арэна пад купалам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | 2 | | | | | |
| | | | | | | 3 | | 4 | |
| | | 5 | | | | | | 6 | |
| 7 | | | 8 | | | | 9 | | |
| | | | | | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 22 нумара**

Мех, консул, хінін, столь, мінчанка, урду, скетч, Друць, гіра, звер, юрта, веер, Расоны, кедр, борць.

Рашэнне: **Ад хлусні не мруць, толькі другі раз веры не даюць**.

# 29.06 — 05.07

**(22.03. – 20.04.)** Супакойся, не перавялічвай праблем, а ўсё складзецца добра. Дацаняй партнёра. Засяродзься на сям'і. У здароўі дай сабе час. Дакучаць будзе стрэс. Можа не цешыць праца (2-6.07.); можаш разглянуцца за іншай.

**(21.04. – 21.05.)** Можаш адчуваць сумненні, пачуццё страчаных шанцаў (28-30.06.); не афармляй цяпер важных спраў, не падпісвай дамоў і не пазычай грошай. Можаш пайсці ў адпачынак. Паявіцца можа новае каханне! Паспрабуй макрабіятычную дыету. На першую палову ліпеня перакладзі ўсе важныя размовы.

**(22.05. – 22.06.)** У пачуццях час кампрамісу. Да 13.07. будзеш энергічны, цікаўны да свету і людзей. Можаш у гэты час разлічваць на лепшыя заробкі. З 1.07. твае наватарскія задумы паўплываюць на твае прыбыткі.

**(23.06. – 23.07.)** На тваім гарызонце паявіцца хтосьці цікавы. Трымай вочы вакол сябе! У пары твая пакорлівасць і катэгарычнасць партнёра могуць быць выбуховай мяшанкай. Энергія да змен сярод сяброў і радні. У першай палове ліпеня не будзеш мець турбот са здароўем. Будуць шанцы на большыя грошы.

**(24.07. – 23.08.)** Пільнуйся, за прыгожымі слоўцамі можа цікаваць хітрасць. А будзеш ласы на кампліменты! Час 2-6.07. будзе генератарам стрэсавых сітуацый. Слухай свайго цела, бо напругі могуць адбіцца на тваім здароўі. Навучыся выказваць злыя эмоцыі — схаваныя знойдуць выхад у хваробе або непрыемных турботах. Не пасварыся з кіраўніцтвам!

**(24.08. – 23.09.)** 29-30.06. прытрапіцца табе непаўторны шанц. 2-6.07. самотныя Дзевы могуць шалёна закахацца. Час поўны высокіх пачуццяў і важных момантаў. Будзь уважлівы, каб нічога не прапусціць! У ліпені будзеш мець не адну нагоду, каб цешыцца кампаніяй сяброў. Твая кар'ера рушыць уперад! На першую палову ліпеня заплануй экскурсію за мяжу. Падбай аб сваё здароўе, асабліва аб скуру і валасы.

**(24.09. – 23.10.)** У апошнія дні чэрвеня адкрыюцца перад табою новыя магчымасці ў любоўным і кампанейскім жыцці. Добрая забава. Шукай сапраўднага сяброўства. Варушыся. Не забывайся аб візітах у лекара і прыёме лякарстваў. Ужо ад першых дзён ліпеня будзеш паспяхова змагацца за сваё, за сямейныя фінансы. Зможаш таксама крыху адкласці. Але 2-6.07. можа чакаць цябе прыкрасць ад шэфа.

**(24.10. – 22.11.)** 29.06. можаш рашыць важную загадку. 2-6.07. бязлітаснае фарсіраванне сваіх перакананняў і навязванне іншым сваёй волі будзе тваім знакам; небяспека на дарозе! У пачуццях пойдзе так як ты хочаш. Калі хтосьці трапіць табе ў вока, дамажашся свайго! Хаця Скарпіёнам народжаным 4-9.11. можа здацца, што каханне прапала... Чакае цябе вострая дыскусія з кімсьці, хто табе даўно „іграе на нервах". Будзь асцярожны, не спяшайся, бо пакалечышся, не шалей за рулём. Старайся не загараць, пільнуй прыёму лякарстваў. У ліпені маеш шанц на ўзнагароду, павышэнне, дадатковы карысны заробак, які дагэтуль быў па-за тваім абсягам.

**(23.11. – 22.12.)** Дасканалы час, каб падбаць аб сябе. Зарадзі акумулятары і адарвіся ад штодзённасці. Цяпер будзеш вельмі ўлюблівы. Затое шмат хто з тваіх знаёмых расчаруе цябе (аж да 26.07.!). У першай палове ліпеня можаш адчуваць сябе ненайлепш; старайся як найбольш адпачываць. Найлепш — вазьмі водпуск.

**(23.12. – 20.01.)** У чэрвені вырашыш стратэгічныя справы, выкажашся мудрасцю і рацыяналізатарствам. У ліпені правядзеш незабыўныя хвіліны з каханай асобай. Будзеш мець поўную падтрымку сям'і. У здароўі будзь памяркоўным, карміся экалагічна. Завяршы ўсе важныя справы на працы. Цешся пахваламі за сваю працу і вопытнасць.

**(21.01. – 19.02.)** У чэрвені пільнуйся ад распусты, бо будзеш шкадаваць таго што выдаў. У ліпені пазнаёмішся з асобай вартай пачуццяў. Ідзі за голасам сэрца! Не крытыкуй, слухай сяброў, давай ім парады. Не будзеш мець добрай формы ў першыя дзве дэкады ліпеня — launch ператомлены і аслаблены; прытармазі. 2-6.07. — час нялёгкіх размоў.

**(20.02. – 21.03.)** Цяжка будзе дагаварыцца з другой палавінкай; ідзі на кампраміс. У пачуццях ненайлепш, абвастрэнне канфліктаў (фінал будзе шчаслівы!). Дома неспадзяванкі. Трэба будзе заняцца старэйшай асобай. Знакамітая форма ў здароўі, будзеш моцны, кінеш кепскія звычкі. Захаваеш раўнавагу паміж абавязкамі і здаровым эгаізмам. У прафесійных справах чакае цябе ў ліпені немалы поспех; дзякуючы тваёй упартасці і засяроджанні ўвагі на сваёй асобе!

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Злотніцкі абрад „абыходаў”, як кожны жывы рэлігійна-народны працэс, безупынна мадыфікаваўся ў часе. Яўгеній Шмыга памятае як маліліся толькі ў трох назначаных кутках вёскі. Юзаф Ярашук прыгадаў, як за яго памяці на сярэдзіну вёскі зганялі жывіну і яе асвячалі. А пры Герку зусім забаранілі хадзіць з працэсіяй.



# У Злотніках разбуджаецца жыццё (ч. II)

— Мой тата быў солтысам. Ён мусіў паехаць да гміны па дазвол. Улады дазвалялі толькі пры каплічцы памаліцца.

Маіх субяседнікаў цешыць, што сёння на святкаванне прыязджаюць з гарадоў дзеці і ўнукі людзей, якіх ужо няма на свеце. Сярод іх ёсць важныя асобы. Іерэй Юстыніян Ярашук прыехаў з маці, цешчай і сямейкай на свята з Саколкі. На месца, дзе жылі дзяды.

— Тут я правёў дзяцінства, — кажа святарэннік. — Сёння таксама паклікалі карані. І бачу людзей, з якімі калісь гуляў на вуліцы. Усе вяртаемся да сваіх месц.





Каплічку і свята памятае ад заўсёды. Праўда, з той пары, як стаў святарэннікам, не быў на свяце. Дзесяць гадоў будзе. Сёння заставіла адна, не надта радасная, акалічнасць...

На панадворку святарэнніка, каля століка засланага белым абрусам, з хлебам, выстойвалі жанчыны. Матушка Іаанна Максімовіч-Ярашук з дачушкай Нікай і сынком Петрусём, сванькі Яўгенія і Юлія з Беластока. Пакуль на іх панадворак зойдзе з малітвай духоўны, раскажуць пра сваё гора. Гаспадар, Ян Ярашук, бацька бацюшкі доўгі час ужо ў шпіталі. Першы раз так здарылася, што няма яго разам на святкаванні ў Злотніках. Яўгенія Ярашук не дала рады гаварыць, яна залілася слязамі і адступілася ад кампаніі на крок, каб схаваць ад пастаронніх вачэй свой боль, любоў і трывогу за мужа...



* * *

Валодзя Саевіч, мужчына з пушчанскай Войнаўкі, трапіў у Злотнікі з-за любві. Тут знайшоў суджаную. З гэтай вёскі паходзіла яго пакойная жонка Аня. У жніўні шэсць гадоў будзе, як няма яе на свеце. Валодзя жыве ў сваёй кватэры ў Беластоку. У Злотніках ён — дачнік. Адрамантаваў хатку, навёў парадак на панадворку, прыбраў у садзе. Можа дзяўчаты захочуць заехаць, адпачыць. Дочкі раз'ехаліся па свеце — адна ў Чыкага, другая ў Лондане. На скошаным панадворку Свірыдзюкоў (гэта дзявочае прозвішча жонкі) сабралася ці не найбольшая колькасць людзей. Прыехалі дзве сястры жонкі з мужамі і дзецьмі, яго браты Віктар і Алік з Гайнаўкі з жонкамі, дваюрадная сястра Ірына з мужам. Валодзя, хоць тут жыве адной нагой, паказаў свой чалавечы клас і гонар. На заканчэнне абыходаў злотніцкія гаспадары па чарзе арганізуюць гасціну для гасцей і вёскі. Зараз прыпала *калейка* Валодзі. Дачнікі рэдка калі бяруць на сябе такую задачу, ды і ніхто на іх за гэта не крыўдуе. А Валодзя нават не думаў. Як гэта не падтрымаць суседзяў, грамадства? Чалавек таго варты, што сам ад сябе прынясе іншым людзям. Заказаў *катэрынг* на паўсотні народу. Калі сяхачу даведацца пра кошт імпрэзы (на якой таксама падымуць тост за вашу рэдактарку „Нівы”), мой суразмоўца будзе гаварыць пра іншае. Навошта ўсё гаварыць пра грошы — свята, дык свята. Які тут выдатак — тры тысячы за катэрынг, нармальная справа...

Падобныя выклікі ў карысць аднавяскоўцаў злотніцкія людзі, без вялікага шуму, падымаюць ад заўсёды. Калі трэба, ніхто не шкадуе свайго граша. Так адрамантавалі гэтую каплічку, пры якой сёння маліліся вёскай. Грамадскую працу моцна падтрымліваюць пажарнікі. Пра гэта раскажа Віктар Антанюк, шэф пажарнага дэпо з дваццацігадовым стажам. Пад яго наглядам аж 36 дзейсных пажарнікаў. Ёсць маладыя, мужчыны ў гадах, пажылыя — усе пакаленні. Праўда, часцей як да пажараў едуць дапамагаць людзям, калі здараюцца дарожныя катастрофы. Або пасля буры едуць расчысціць дарогі ад буралому. Апошнім часам ездзілі гасіць машыну, якая загарэлася ў гаражы...

— Яшчэ і трымаем парадак у нашай вясковай святліцы, — дадае Віктар Антанюк.

Грамадскую ініцыятыўнасць жыхароў хваліць таксама бацюшка Раман. На парафіі ў Кажанах ён няцэлы год. У ёй каля дзесяці вёсак, усе яны змешаныя, напалову каталіцкія і праваслаўныя. Каля трыста душ разам будзе.

— Але тут добры клімат, — адзначае бацюшка. — Людзі ва ўсім дапамагаюць, прыходзяць на службы. Маладыя засяляюць пакінутыя месцы. Жыццё разбуджаецца. Нават шлюб адзін быў, а хрэсьбінаў дык некалькі.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**



ISSN 0546-1960